ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 23 (2477) 6 чэрвеня 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

## У ДЗЕНЬ СЛАВЯНСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І КУЛЬТУРЫ

**Увесь славянскі свет адзначыў 24 мая свята славянскага пісьменства і культуры. У Мінску цэнтрам урачыстасцяў стаў Святадухаў кафедральны сабор, дзе прайшла літургія ў памяць аб роўнаапостальных Кірылу і Мяфодзію. Яе правёў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.**

**Акрамя мінчан у храм прыйшлі і госці пятага міжнароднага кінафестывалю славянскіх і праваслаўных народаў "Залаты віцязь", якія з'ехаліся ў Мінск з 19 краін свету. Дэвіз жа гэтага кінафоруму -- "За маральныя і хрысціянскія ідэалы. За ўзвышэнне душы чалавека" -- поўнасцю адпавядае духу свята славян.**

**Пасля літургіі ўдзельнікі ўрачыстасцей прайшлі хрэсным ходам па вуліцах беларускай сталіцы. Яны ўсклалі кветкі да мемарыяльнай дошкі, устаноўленай у гонар Кірыла і Мяфодзія. Ля месца, дзе ў XI стагоддзі стаяў праваслаўны храм, быў адпраўлены малебен і прайшоў мітынг, прысвечаны Дню славянскага пісьменства і культуры і кінафестывалю "Залаты віцязь".**

**З прывітальнымі словамі да гасцей кінафоруму звярнуліся міністр культуры Беларусі Аляксандр Сасноўскі, прэзідэнт "Залатога віцязя" Мікалай Бурляеў, намеснік старшыні Мінгарвыканкома Ігар Зелянкевіч. На мітынгу выступілі таксама і прадстаўнікі кінематаграфічных дэлегацый розных краін.**



**НА ЗДЫМКУ: у час мітынгу, прысвечанага Дню славянскага пісьменства і культуры.**

**Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ.**

## *ШТО НА НАШЫМ ПАДВОРКУ?*



**Амаль 600 самадзейных артыстаў прыняло ўдзел у Першым рэспубліканскім фестывалі нацыянальных культур Беларусі. Адбылася гэта нештодзённая падзея 24--26 мая ў Гродне. Неафіцыйна гэтае свята называлася фестывалем нацыянальных меншасцей. Татары, украінцы, палякі, рускія, немцы, яўрэі, літоўцы, азербайджанцы, цыгане, карэйцы -- усе мелі свае "нацыянальныя падворкі", дзе кожны выстаўляў лепшае: ад народных вырабаў, строяў да адметных страў. Усе яны жывуць у згодзе з беларусамі на зямлі, якая стала для адных Радзімай сотні гадоў назад, для другіх -- лічаныя гады.**

*(Працяг фотарэпартажу змешчаны на 8-й стар.).*

ЛІДЭР І ГРАМАДСТВА

# ВУЧЫЦЦА, ВУЧЫЦЦА І... ЯШЧЭ РАЗ ВУЧЫЦЦА

"Роля лідэрства ў пабудове грамадзянскай супольнасці ў посткамуністычны перыяд у краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы" -- так называўся семінар-трэнінг, які наладзіў грамадскі навукова-аналітычны цэнтр "Беларуская перспектыва" пры падтрымцы Беларускага фонду Сораса. Ён адбыўся ў другой палове мая ў Мінску. На семінар з'ехалася каля 50 удзельнікаў з розных гарадоў Беларусі, а таксама з Эстоніі, Польшчы, Літвы, Украіны.

Хто ведае, магчыма, калі б уменне будаваць грамадзянскую супольнасць і вывучаць праблемы лідэрства прыйшлі да беларусаў гэтак на пяць--восем гадоў раней, дык цяперашняе становішча ў краіне не выглядала б такім фатальным, а Беларусь не займела б рэпутацыю ў свеце парушальніка правоў чалавека і свабод сваіх грамадзян.

Калі пачынаеш аналізаваць дзейнасць новых беларускіх дэмакратычных лідэраў, адразу ўзгадваюцца словы іншага лідэра XX стагоддзя Уінстана Чэрчыля, які некалі сказаў: "Кожнаму чалавеку выпадае аднойчы ў жыцці спецыяльны момант, калі лёс даруе яму магчымасць выкарыстаць той адзіны шанц і зрабіць нешта своеасаблівае, што адпавядае толькі яго здольнасцям і таленту. Якая ж надараецца трагедыя, калі гэты момант напаткае яго непадрыхтаваным і недастаткова кваліфікаваным дзеля такой працы".

Няздольнасць беларускіх дэмакратаў выкарыстаць свой шанц, з аднаго боку, тлумачыцца вельмі проста: усе яны выйшлі з той самай таталітарнай сістэмы, дзе ў сапраўдных лідэрах ніякай патрэбы ніколі не было, бо на чале дзяржавы заўсёды стаяў правадыр, які браў на сябе функцыю вяршыцеля лёсу народа, ператвараючы апошні ў безаблічны пасіўны натоўп. З усіх праблем лідэрства адзінае, што давялося нашым дэмакратам вывучаць, дык гэта — роля асобы ў гісторыі, якая хоць і мае пэўнае дачыненне да тэматыкі, не шмат аднак дадае да яе разумення ў поўным сэнсе паняцця, а тым больш да авалодання нейкімі пэўнымі навыкамі сапраўднага лідэра.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

# БЕЛАРУСЬ -- ЗОНА СУТЫКНЕННЯ

## РОЗНЫХ КУЛЬТУРНЫХ ТРАДЫЦЫЙ І ФАРМІРАВАННЯ АСНОЎ ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ

Выбіраючы гэту тэму, я ўлічваў, што погляд знешняга назіральніка можа быць цікавым для акрэслення спецыфічных беларускіх традыцый і іх патэнцыяльнай ролі ў фарміраванні сучаснага грамадства, ужо інтэграванага са знешнім светам.

Пераважную частку сваёй гісторыі Беларусь дзяліла непасрэдна з суседнімі народамі. Яна саўдзельнічала, на дабро і зло, у будаўніцтве і развіцці дзяржаўнасці кіеўскай, літоўскай, польскай, расійскай і савецкай. З гэтай прычыны беларусы былі ўвогуле моцна падстаўлены ўсім вятрам гісторыі, што дае тлумачэнне, чаму яны не могуць, у адрозненне ад сваіх суседзяў, атаясамліваць сябе толькі з адной дзяржаўнай і культурнай традыцыяй. Затое беларусы могуць цалкам залічыць сябе да спадкаемцаў усіх тых дзяржаўных традыцый народаў з нацыямі, якія выпестоўваюць у сябе прэтэнзіі да выключнасці іх паходжання. Тое, што для беларусаў з'яўляецца патэнцыяльным козырам, стала для іх суседзяў крыніцай незадаволенасці ў часы фарміравання сучасных нацый.

**(Працяг на 4-й стар.).**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*БЕЛАРУСЬ -- ЗША*

## ДЗЕЛАВОЕ СУПРОЦОЎНІЦТВА



Амерыканскую дэлегацыю, што прыбыла ў Беларусь для ўдзелу ў рабоце другога сумеснага пасяджэння Беларуска-амерыканскага камітэта па развіццю дзелавога супрацоўніцтва, 29 мая прыняў кіраўнік адміністрацыі Прэзідэнта рэспублікі Міхаіл Мясніковіч.

"Гэта сустрэча будзе садзейнічаць як пашырэнню нашых кантактаў, так і ўмацаванню ўзаемнага давер'я, -- сказаў, вітаючы гасцей, Міхаіл Мясніковіч. -- У падпісаным на сумесным пасяджэнні Беларуска-амерыканскага камітэта па развіццю дзелавога супрацоўніцтва пратаколе выкладзены вельмі важныя і эканамічныя, і палітычныя пытанні, і мы будзем старацца выконваць іх ва ўстаноўленыя тэрміны".

Кіраўнік адміністрацыі кіраўніка дзяржавы прапанаваў членам амерыканскай дэлегацыі ўдакладніць намечаныя пазіцыі і вызначыць, якія дзеянні неабходна прадпрыняць, каб актывізаваць гандлёва-эканамічныя адносіны. На яго думку, у гэтым сумесным супрацоўніцтве "трэба было б выкарыстаць як макраэканамічныя падыходы, так і ісці ад прыватнага да агульнага".

З амерыканскай дэлегацыяй сустрэўся таксама прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір.

**НА ЗДЫМКУ:** у час сустрэчы амеры кай дэлегацыі з М. ЧЫГІРОМ.

*РЭПУТАЦЫЯ ДЗЯРЖАВЫ*

## БЕЛАРУСКІ "ФОРД"

Пагадненне аб выпуску аўтамабіляў "Форд" падпісалі ўрад Рэспублікі Беларусь, "Форд мотар компані" і фірма "Лада-ОМС" (дылер "Форда" ў Беларусі) з размеркаванымі, адпаведна, долямі: 26 працэнтаў, 51 і 23 працэнты. Новая кампанія, якая атрымала назву "Форд Юніён", будзе збіраць перспектыўныя, нядаўна асвоеныя мадэлі "Форд Транзіт" і "Форд Эскорт". Першапачатковыя інвестыцыі ў новую вытворчасць, што напачатку будзе пераважна зборачнай, складуць каля 20 мільёнаў долараў. Першыя аўтамабілі плануецца выпусціць у трэцім квартале наступнага года. У першы поўны год сваёй вытворчай дзейнасці кампанія намячае сабраць 6000 "фордаў". У Беларусі мяркуецца рэалізоўваць адну пятую частку аўтамабіляў.

*КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД*

## БОЛЬШ НЯМА ВАКАНСІЙ

З 24 мая Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь пачаў дзейнічаць у поўным складзе. У гэты дзень у Вярхоўным Савеце адбылося тайнае галасаванне па давыбарах двух суддзяў. Новымі членамі Канстытуцыйнага суда сталі дацэнт кафедры канстытуцыйнага права юрыдычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта Аляксандр Вашкевіч і яго калега -- дацэнт гэтага ж факультэта Міхаіл Чудакоў.

Пасля прыняцця Вярхоўным Саветам адпаведнай пастановы Аляксандр Вашкевіч і Міхаіл Чудакоў прынялі прысягу на вернасць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

*АПЫТАННІ*

## ДАВЕР -- ЦАРКВЕ

Найбольшым даверам сярод насельніцтва карыстаецца царква. Кожны трэці рэспандэнт (33 працэнты) ёй "поўнасцю давярае". Практычна кожны чацвёрты апытаны (24 працэнты) у такой жа ступені давярае прэзідэнту краіны і 15 працэнтаў -- "поўнасцю давярае" войску. Іншыя дзяржаўныя і грамадскія інстытуты і арганізацыі карыстаюцца значна меншым даверам грамадзян. Так, ледзь не кожны трэці рэспандэнт (29 працэнтаў) "поўнасцю не давярае" міліцыі, кожны чацвёрты (25 працэнтаў) аналагічна ставіцца да мясцовых уладаў і кожны пяты "поўнасцю не давярае" трацыцыйным прафсаюзам (22 працэнты) і органам правасуддзя (20 працэнтаў).

Такія вынікі сацыялагічных апытанняў.

*МТЗ*

## "ЗАЛАТЫ ЮБІЛЕЙ"

Мінскаму трактарнаму заводу споўнілася 50 гадоў. Ён быў створаны на базе мінскага авіяцыйнага завода. Першапачаткова праектная магутнасць разлічвалася на выпуск 50 гусенічных сельскагаспадарчых трактароў "КД-35" у суткі. Першая іх серыйная партыя была выраблена ў 1950 годзе. Са жніўня 1951 года прадпрыемства перайшло на выпуск тралёвачных машын. А ў перыяд з 1948 па 1953 год канструктарамі былі створаны універсальны колавы трактар, названы ў гонар нашай рэспублікі "Беларусь".

Як вядома, адлік трактароў сямейства маркі "Беларусь" быў пачаты 14 кастрычніка 1953 года. А 8 чэрвеня 1995 года з галоўнага канвеера сышоў ужо трохмільённы трактар. Ім стаў "МТЗ-920". Усяго за апошнія гады трактаразаводцамі было распрацавана і ўкаранёна ў вытворчасць 12 мадэляў трактароў, аўтобусы для работы ў шахтах, машыны для камунальнай і лясной гаспадаркі, 7 мадэляў малагабарытных трактароў і мотаблокаў. На сённяшні дзень прадукцыя МТЗ пастаўляецца больш чым у 70 краін свету.

*РЭКАНСТРУКЦЫЯ*

## ПАРК СКІРМУНТАЎ

60-гектарны парк родавай сядзібы Скірмунтаў (апошні з якіх, Раман, быў кіраўніком урада БНР у 1919 годзе) чакае рэканструкцыі.

Распрацоўшчыкам яе праекта -- спецыялістам пінскага інстытута "Палессегіправодгас" -- давялося нямала папрацаваць, каб узнавіць гісторыю фарміравання пейзажнай і дэндралагічнай частак парка, а затым прапанаваць аптымальныя варыянты іх абнаўлення.

У прыватнасці, запрацуе тут водная сістэма з каскадам сажалак і каналам ад ракі Ясельда. Як паказала інвентарызацыя дрэваў, ахоўныя меры забяспечаць яшчэ доўгае існаванне балотнага кіпарыса, сасны кедравай, дуба аксамітнага, лістоўніцы і іншых рэдкіх парод, якія вызначаюць унікальнасць старога парка ў вёсцы Парэчча каля Пінска.

*АФТАЛЬМАЛАГІЧНЫ ЦЭНТР*



Пры медыцынскім цэнтры Мінскага трактарнага завода працуе афтальмалагічны цэнтр. Тут аказваюць высокакваліфікаваную дапамогу ў галіне хірургіі, тэрапіі, дыягностыкі і прафілактыкі хвароб вока. Усё гэта стала магчымым дзякуючы аснашчэнню цэнтра самым сучасным медыцынскім абсталяваннем і апаратурай, прымяненню самых прагрэсіўных методык і тэхналогій лячэння і, вядома ж, дзякуючы высокакваліфікаваным спецыялістам афтальмолагам. Штомесяц цэнтр прымае больш за тысячу пацыентаў і аперыруе да 50 хворых.

**НА ЗДЫМКУ:** хірург-афтальмолаг Ігар ПАШКІН вядзе дыягнастычнае даследаванне вока.

*НОВЫЯ ВЫДАННІ*

## "БЕЛАРУСАЧКА"

Усё для жанчын і пра жанчын -- такім будзе змест газеты "Беларусачка", новае выданне зарэгістраваў Дзяржкамітэт па друку.

-- Гэту газету, хочацца спадзявацца, даўно чакаюць нашы суайчынніцы, -- сказаў яе галоўны рэдактар Міхаіл Давыдзік. -- "Беларусачка" ж будзе прысвечана апісанню непаўторнай жаночай прыгажосці, чароўнасці і прывабнасці прадстаўніц лепшай палавіны чалавецтва. На старонках газеты будуць публікавацца проза, вершы -- лепшыя творы беларускай і сусветнай літаратуры, тэксты і ноты любімых песень і рамансаў, артыкулы аб здароўі, касметыцы, аб таямніцах душы чалавечай. І, вядома, там будуць добрыя парады гаспадыням, цікавыя матэрыялы аб звычаях і традыцыях нашых бацькоў, аб шлюбе і сям'і, аб каханні.

*ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ*



У Нараўлянскім раёне заканчваецца пасяўная. Адцвілі сады. Вясна набірае поўную сілу, вось толькі цяжкай яна аказалася для гэтых простых вяскоўцаў: Антаніны ЧАРНЯК і Аляксея АНІШЧАНКІ. Зімуюць яны ў гарадской кватэры -- там цяплей, а па вясне перааязджаюць на "соткі". Грошай узяць каня для апрацоўкі зямлі не хапае -- вось і даводзіцца рабіць усё самім.



*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ЛЕТАСЬ за межамі краіны працавалі афіцыйна 1 632 (неафіцыйна -- намнога больш) беларусы, з іх -- 1 335 у Расіі, у Польшчы -- 187, у Грэцыі -- 76, у Чэхіі -- 51, у Германіі -- 30, у Францыі -- 10. Мужчыны працуюць у асноўным на будаўніцтве, сезонных сельгасработах, жанчыны -- догляд за дзецьмі.

БЕЛАРУСЫ сталі менш купляць, а больш ашчаджаць. За першыя тры месяцы 1996 года аплата паслуг і выдаткі на набыццё тавараў у агульным балансе знізіліся, у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года з 84,7 працэнта да 71,1 працэнта. Затое прырост укладаў насельніцтва, набыццё імі каштоўных папер і замежнай валюты павялічыліся ў параўнанні са студзенем-сакавіком 1995 года амаль у тры разы і склалі амаль 5,29 трыльёна рублёў.

1,2 ТРЫЛЬЁНА рублёў -- такі "кошт" чалавечай працы, энергіі і матэрыялаў, якія ў выглядзе не прададзенай прадукцыі ляжаць "мёртвым грузам" сёння на складах і базах Віцебскай вобласці. Са студзеня 1996 года запасы нерэалізаванай прадукцыі павялічыліся амаль што на 400 мільярдаў рублёў.

НА МІЖНАРОДНАЙ выстаўцы "Піва-96", што праводзілася ў Сочы, мінскае фірменнае піва "Крыніца" атрымала высокую адзнаку. Цяпер яго этыкеткі будуць упрыгожаны адбіткам сярэбранага медаля. У класе цёмнага піва бронзавай узнагароды ўдастоены мінскі "Портэр".

БЕЛАРУСУ цяпер можна ехаць у Балгарыю без візы. Дастаткова мець толькі агульнаграмадзянскі заграніны пашпарт СССР і 40 долараў ЗША на кожны дзень знаходжання ў краіне. Такое рашэнне прынялі ўлады Балгарыі. А нашы суседзі літоўцы, наадварот, павысілі кошт візаў у Літву.

*ВІЦЕБСКІЯ ТЭЛЕВІЗАРЫ*



Каля двух з паловай мільёнаў тэлевізараў сышло за дваццаць гадоў з канвеераў Віцебскага вытворчага аб'яднання "Віцязь". Сёння ў яго склад, акрамя галоўнага прадпрыемства, якім з'яўляецца тэлевізійны завод, уваходзяць канструктарскае бюро і гандлёвы дом, Тэхнагандлёвы цэнтр фірменнага абслугоўвання тэлевізараў у Віцебску мае 70 філіялаў ва ўсіх дзяржавах СНД, Балтыі і Сярэдняй Азіі.

**НА ЗДЫМКУ:** карпусы вытворчага аб'яднання "Віцязь".

# ВУЧЫЦЦА, ВУЧЫЦЦА І... ЯШЧЭ РАЗ ВУЧЫЦЦА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Відавочна, цяжка распазнаць неабходнасць вывучаць нешта, чаго ў гэтай краіне ніколі не існавала (ці хутчэй існавала як адлюстраванне ў крывым люстэрку), а таму як нерэальнае, што цяжка паддаецца ўсведамленню.

З другога боку, здзіўляе і выклікае засцярогу недальнабачнасць беларускіх лідэраў і тое, як яны на працягу амаль дзесяцігоддзя наступаюць на адны і тыя ж "граблі", а сумны вопыт так нічому іх і не вучыць. У рэшце рэшт Беларусь знаходзіцца ўсё ж у цэнтры Еўропы, а на парозе трэцяе тысячагоддзе. Станоўчы вопыт замежных краін павінен усё ж прымусіць задумацца беларусаў, што поспех пераўтварэнняў там у пэўным сэнсе абумоўлены таксама якасцямі і кваліфікаванасцю лідэраў гэтых краін (прыклад сп. Гавела ў Чэхіі тут можа быць самым яскравым і паказальным). Даўно прыйшоў час зразумець, што лідэрства -- гэта сума пэўных ведаў і навыкаў, якімі пры жаданні можна авалодаць. На жаль, і сёння, калі праблемы лідэрства пачынаюць уздымацца ў Беларусі, найчасцей усе дыскусіі зноў тычацца больш крытыкі былых або цяперашніх асобных лідэраў і амаль няма новых канструктыўных распрацовак па метадалогіі, сродках, нарэшце, па "вытворчасці" лідэраў новага тыпу.

У пэўным сэнсе гэта тычыцца і дадзенага семінару. За невялікім выключэннем на ім прэзентаваліся, у асноўным, аналітычныя распрацоўкі, сярод якіх варта згадаць даклад Юрася Шаўцова, палітолага і рэдактара аддзела газеты "Белорусский рынок". Сярод апошніх інавацый асаблівую цікавасць удзельнікаў выклікала інфармацыя дырэктара цэнтра сацыяльнай дынамікі, кандыдата філасофскіх навук Уладзіміра Падгола "Лідэр беларускага грамадства: чаканні і рэальнасць" на падставе яго даследавання трансфармацыі посттаталітарнага менталітэту. Сутнасць яго тэзіса ў наступным. Беларускія дэмакратычныя лідэры (дарэчы, як і рускія, а таксама некаторых іншых краін былога СССР) у сваіх дзеяннях дагэтуль ігнаруюць два вызначальныя фактары развіцця соцыума: наяўнасць ідэалагемных палёў і сістэм ідэлаў. Ідэалагемы ёсць свайго роду самападманкі для чалавека, груп людзей ці наогул грамадства. Напрыклад, у таталітарнай сістэме, дзе дзяржава кіруе, валодае, дамініруе над чалавекам, апошні не хоча прызнацца ў сваёй слабасці і пачынае сябе падманваць і пераконваць тады ў тым, што "зрабіцца багатым чэсным шляхам немагчыма" або, што "мы -- самая начытаная нацыя", "у нас самая магутная армія". У залежнасці ад набора ідэалагем (іх можа быць 20, 30 і значна болей) фарміруецца той ці іншы тып ідэалагемнага поля. Менавіта наяўнасць і якасць гэтага ідэалагемнага поля і не ўлічвалася дэмакратычнымі лідэрамі для дасягнення сваіх мэтаў (самым відавочным прыкладам тут ёсць новая хваля русіфікацыі ў дзяржаве). Такім чынам, атрымліваецца, што лёс краіны залежыць ад таго, хто і як валодае мастацтвам фарміравання ідэалагемнага поля, ад яго структуры і скіраванасці. Больш таго, ідэалагемныя палі не могуць існаваць без ідэла, у ролі якога можа выступаць як асобная партыя, арганізацыя, група людзей, так і нейкая асоба.

Уладар і дзяржава -- вось два асноўныя ідэалы таталітарызму. З пачаткам перабудовы гэтыя два ідэалы пахіснуліся. Акрамя таго, пад націскам аб'ектыўнай інфармацыі пачалі рушыцца і ідэалагемныя палі, гэта значыць, людзі аднойчы прачнуліся і зразумелі, што яны не самая магутная нацыя. Больш таго, яны пачалі ўяўляць, што яны яшчэ і лайдакі, і недастаткова адукаваныя і г. д., што ніяк не стасавалася з ранейшымі вобразамі "самых працавітых" і "начытаных". Калі б на самым пачатку дэмакратычных пераўтварэнняў новыя дзяржаўныя дзеячы здолелі ўлічыць падобныя метамарфозы, авалодалі імі і навучыліся кіраваць, дык магчыма ўдалося б і пазбегнуць "землятрусу ў мазгах насельніцтва". З дзяржаўнага ўзроўню гэтая схема лёгка перакладаецца на дзейнасць працоўных або грамадскіх калектываў і нават бытавы ўзровень.

Акрамя дакладаў і дыскусій на семінары былі праведзены дзве дзелавыя гульні: "Прэзідэнцкія выбары як сродак фарміравання і ўмацавання лідэраў грамадскіх арганізацый" і "Павелічэнне даверу да лідэраў грамадскіх арганізацый і рост іх папулярнасці падчас правядзення масцовых рэферэндумаў", якія маладыя ўдзельнікі палічылі вельмі карыснымі.

Наогул тэма лідэрства -- гэта з'ява, якая найчасцей сустракаецца ў нашым жыцці і закранае кожны яго аспект, але найменш паддаецца разуменню і асэнсаванню. Папросту праблема лідэрства ёсць праблема ўзаемаадносін: у сям'і (муж і жонка, бацькі і дзеці, старэйшыя і малодшыя дзеці), у калектыве, нарэшце, у грамадстве. Без моцнай сучаснай філасофіі, без тэарэтычных і практычных распрацовак, без ...оўных канцэпцый і аналізу практ... а сучаснага вопыту нельга пабудаваць падмурак грунтоўных ведаў па такой складанай праблеме, як лідэрства ані ў мастацтве, ані ў навуцы, ані ў палітыцы. Без дакладных вымярэнняў і канцэпцый немагчым... авесці адрозненне паміж тыпамі ...дэраў. Нельга будзе вызначыць, хто ёсць сапраўдны лідэр, які кіруецца ў сваіх дзеяннях маральнымі і этычнымі каштоўнасцямі, прынцыпамі свабоды, роўнасці, справядлівасці і чалавечай годнасці, і хто ёсць толькі ўладар, уладатрымальнік, які працуе на разбурэнне вышэйзгаданых каштоўнасцей і прынцыпаў. Вельмі марудна, але ўсё ж беларусы пачынаюць распазнаваць неабходнасць для сябе вывучэння такой вядомай і такой незнаёмай праблемы лідэрства. Задача гэта складаная, калі ўлічыць, што ў краіне пакуль няма кваліфікаваных экспертаў па гэтай дысцыпліне. Тым не менш, як сказаў апошні лідэр Савецкага Саюза, "працэс пайшоў", і цяпер наперадзе прадбачыцца цікавая работа. Маладыя лідэры мусяць адказаць на шмат пытанняў, каб вызначыць для сябе, што ёсць лідэрства: ці ёсць гэта толькі культурнае або палітычнае наватарства? Ёсць гэта акрэсленне мэты або яе дасягненне? Ці лідэр той, хто вызначае каштоўнасці, або той, хто задавальняе патрэбы? Нарэшце, калі лідэрства прадугледжвае наяўнасць прыхільнікаў, дык хто каго вядзе, адкуль, куды і чаму? Каб адказаць на ўсе гэтыя пытанні, трэба навучыцца стратэгічна мысліць, планаваць сваю дзейнасць, вызначаць мэты і задачы і распрацоўваць шляхі іх дасягнення, авалодаць метадамі ацэнкі і самаацэнкі эфектыўнасці працы арганізацыі, асэнсаваць нарэшце палітыку збору сродкаў для падтрымкі дзейнасці. Карацей кажучы, бліжэйшыя задачы грамадскіх лідэраў можна акрэсліць словамі правадыра "усіх часоў і народаў" У. І. Леніна: "Вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца". Толькі ад намаганняў і мэтанакіраванасці маладых дэмакратычных лідэраў цяпер будзе залежыць адбудуюць ці не грамадзянскую супольнасць у Беларусі.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

*У "САЦЫЯЛІСТЫЧНЫМ ШЛЯХУ"*



**Гэта калектыўная гаспадарка ў Крычаўскім раёне мае яшчэ старую назву "Сацыялістычны шлях". Як і паўсюль у Беларусі, калгасы перажываюць не лепшыя часы, або зусім аджываюць. А тут неяк усё ладзіцца. Нягледзячы на цяжкасці, тут нядрэнныя зарплата і ўмовы працы, вядзецца гаспадарча-культурнае будаўніцтва, і ў першую чаргу, жыллёвае. У 1995 годзе наваселле святкавалі 4 сям'і, сёлета намечана здаць у эксплуатацыю яшчэ чатыры дамы-катэджы. Сапраўдным гонарам калгаснікаў стаў Дом механізатара. У ім прадугледжаны вучэбныя класы, пакоі адпачынку, дыспетчарская, душавыя, актавая зала.**

**НА ЗДЫМКУ: вуліца ў вёсцы Залесавічы.**

**Фота Анатоля МАРУШЭЎСКАГА.**

АДУКАЦЫЯ

# АСПІРАНТЫ ПАКІДАЮЦЬ НАВУКУ, ДАКТАРЫ СТАРЭЮЦЬ

**За 1990-1994 гады колькасць навуковых работнікаў у Беларусі зменшылася амаль напалову. Толькі за 1993 год на 300 чалавек скарацілася колькасць аспірантаў і дактарантаў. Далейшае зніжэнне колькасці занятых у гэтай сферы можа выклікаць сур'ёзныя цяжкасці ў пераарыентацыі эканомікі на навукаёмістыя галіны, што магло б стаць магістральным напрамкам яе развіцця.**

Сур'ёзныя праблемы існуюць у сістэме адукацыі. На пачатак бягучага навучальнага года ў дзённых агульнаадукацыйных школах не хапала 38,5 тысячы настаўнікаў, патрэба ў кадрах была задаволена на 76,6 працэнта. Амаль усе настаўнікі працавалі з перагрузкай на трэць, а тамсям і вышэй. З ліку выпускнікоў педагагічных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў прыбылі на месцы размеркавання толькі 50,9 працэнта. Навучальны працэс у асноўным забяспечваюць пенсіянеры ці амаль пенсіянеры.

Па вышэйшай школе гэтыя паказчыкі яшчэ горшыя. За апошнія пяць год колькасць прафесарска-выкладчыцкага складу ВНУ скарацілася больш, чым на тысячу чалавек (на 9,2 працэнта), 35 працэнтаў прафесарска-выкладчыцкага складу -- людзі ва ўзросце, блізкім да пенсійнага (старэй за 51 год), 75,6 працэнта дактароў навук -- ва ўзросце старэй за 50 гадоў, 34,9 працэнта -- 61 год і больш, 41,1 працэнта кандыдатаў навук -- такога ж узросту.

**ВНУ штогод пакідаюць ад 3 да 5 працэнтаў маладых выкладчыкаў. Ідзе зніжэнне колькасці высокакваліфікаваных кадраў. Практычна няма прытоку маладых людзей, што маюць вучоную ступень. Асноўная прычына -- падзенне прэстыжнасці адукацыі, нізкая заработная плата. Зарплата дацэнта з 15-гадовым стажам з улікам усіх даплат менш мінімальнага пражытачнага бюджэта.**

Нізкая якасць адукацыі памнажаецца на яго нерацыянальную прафесіянальную структурызацыю. Значная частка юнакоў і дзяўчат пасля заканчэння навучальных устаноў трапляе ў беспрацоўныя. Сярод зарэгістраваных беспрацоўных моладзь складае каля 12 працэнтаў. У 1995 годзе з 20 тысяч выпускнікоў сярэдніх навучальных устаноў -- каля 60 працэнтаў, з 53 тысяч выпускнікоў прафесійна-тэхнічных вучылішчаў -- каля 52 працэнтаў.

**Такія ж праблемы і ў Расіі, дзе праявілася катастрафічная неадпаведнасць таго, чаму вучаць у дзяржаўнай сістэме адукацыі, і таго, што патрабуе рынак працы. Непасрэдна пасля атрымання дыплома ў службу занятасці звяртаецца прыкладна 50 працэнтаў выпускнікоў ВНУ, 55 працэнтаў -- выпускнікоў тэхнікумаў, 45 працэнтаў -- выпускнікоў ПТВ.**

**Асаблівую праблему складае "ўцечка мазгоў". Прычым калі раней вучоных і распрацоўшчыкаў пераманьвалі гарантыяй пастаяннага месца жыхарства і працы, то цяпер, як правіла, спецыяліста запрашаюць на нейкі перыяд, арганізуюць яму чытанне курсу лекцый і практычную перадачу сваіх методык, вывучаюць яго кнігі. Далей спецыяліст не патрэбен. Ён можа ехаць дадому, а яго веды і ўменне застаюцца.**

Істотна ўплывае на інтэлектуальны патэнцыял рэспублікі і стан здароўя насельніцтва. Сёння ў Беларусі 340 тысяч псіхічна анамальных дзяцей. У цэлым жа "пагранічны стан" паміж неўрозам і больш цяжкімі формамі псіхічнага расстройства адзначаецца ў 70 працэнтаў дзяцей. А навука сцвярджае, што пры наяўнасці 30 працэнтаў псіхічна анамальных людзей нацыя асуджана на выраджэнне. Яшчэ горш сітуацыя з агульным фізічным здароўем. Прыгоднай да прызыву ў армію моладзі цяпер 12--15 працэнтаў. А па-сапраўднаму здаровых -- 3 працэнты.

Праблем, выкліканых беспрацоўем і беднасцю, што спадарожнічае яму, -- мноства. Аднак ледзь ці не самае важнае ў выжыванні -- гэта ратаванне культуры, захаванне сферы разумовай дзейнасці, як крыніцы ўзнаўлення інтэлектуальнага патэнцыялу нацыі.

**Станіслаў ГУБАР,**
**старшыня Беларускага свабоднага прафсаюза педагогаў.**
("Белорусский рынок").

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

# БЕЛАРУСЬ -- ЗОНА СУТЫКНЕННЯ

## РОЗНЫХ КУЛЬТУРНЫХ ТРАДЫЦЫЙ І ФАРМІРАВАННЯ АСНОЎ ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЦІ

Для знешняга назіральніка, пераважна з адлеглых ад яе заходніх краін, Беларусь сёння з'яўляецца бясспрэчнай навіной, да якой трэба прызвычаіцца і якую цяжка адназначна акрэсліць. Для французаў, якія празвычаіліся да нацыянальнага атаясамлівання, якое абапіраецца на існаванне бесперапыннай дзяржаўнасці, Беларусь уяўляецца як утварэнне мала выразнае, як пераходны абшар на дарозе да Масквы, і як дзяржава можа нават асуджаная на непазбежную страту незалежнасці.

Існаванне Беларусі з'яўляецца таксама загадкай для блізкіх суседзяў як і для многіх яе ўласных жыхароў. Устойлівае існаванне Беларусі ў будучыні часта стаіць пад знакам запытання. Жыхары Беларусі на працягу гісторыі зведалі шмат уплываў, што дае тлумачэнне, чаму яны ніколі не маглі цалкам прыняць аргументацыі розных суседзяў, якія адмаўлялі іх спецыфічнасць. Гэта дае ім права для існавання Беларусі як дзяржавы.

Самі суседзі Беларусі таксама адчуваюць адметнасць гэтага краю. Палякі, народжаныя ў асяроддзі беларусаў і раскіданыя па свеце, ведаюць спецыфіку гэтай зямлі, якая ўспрыняла зашмат польскіх уплываў, каб магла стаць расійскай, але якая ўвабрала ў сябе таксама шмат уплываў расійскіх, што не дазволіла ёй стаць польскай. Расіяне, што пражываюць на Беларусі, у сваю чаргу часта выказваюць меркаванне, што спецыфіка гэтага краю заснавана на тым, што адносіны паміж людзьмі ў ім больш лагодныя, чым у суседніх краях, што людзі выказваюць тут большую талерантнасць.

Калісьці я спаткаў былога маскоўскага карэспандэнта органа французскай кампартыі, больш таго, чалавека, які, з погляду на сваю "якабінскую", цэнтралізатарскую нацыянальную культуру і сваю сімпатыю да праекта будаўніцтва савецкага грамадства, павінен быў мець пераважныя схільнасці да ігнаравання беларускай спецыфікі. Аднак ён сцвярджаў, што колькі разоў ні прыязджаў на Беларусь, столькі разоў пасля перасячэння мяжы паміж абедзьвума савецкімі рэспублікамі быў уражаны, як адрозніваюцца выглядам прыдарожныя вёскі, паводзіны людзей і іх адносіны да працы і акружэння. На яго думку, у штодзённым жыцці ўдалося заўважыць, што выйсце з векавых феадальных звычак было на Беларусі лепшым чым у Расіі, з прычыны меншага ўплыву тут дэспатызму, успрынятага ад татарскіх ханаў. Для яго чалавек на Беларусі прадстаўляў пэўныя рысы, якія маглі адпавядаць патрабаванням нашых часоў і цячэнням мадэрнізму.

Беларусь існуе, тым больш, што яе жыхары як і яе знешнія назіральнікі заўважаюць яе спецыфіку. Улічваючы гэта неабходна акрэсліць, у чым гэта спецыфіка праяўляецца:

-- Наколькі спецыфіка Беларусі выходзіць з рысаў, якія яна сама стварыла?

— Наколькі спецыфіка Беларусі выводзіцца з яе сумеснага ўзаемадзеяння з рознымі яе суседзямі ў розных дзяржаваўтваральных і культуратворчых працэсах?

-- Наколькі спецыфіка Беларусі выводзіцца з яе гістарычнай ролі пасрэдніка паміж яе суседзямі з вельмі рознымі дзяржаўнымі і культурнымі традыцыямі?

### КУЛЬТУРНЫЯ ТРАДЫЦЫІ БЕЛАРУСІ

Паколькі да нядаўняга часу беларусы ніколі не жылі ва ўласнай дзяржаве, цалкам аддзеленай ад сваіх суседзяў, цяжка знайсці выразныя асобныя гістарычныя беларускія рысы, а значыць і нацыянальныя. З прагісторыі, а менавіта з часоў, калі беларускія землі яшчэ не належалі ніякай дзяржаве, паходзяць сляды элементаў паганскай славянскасці. Відавочна, што Беларусь дзеліць іх з іншымі славянскімі нацыямі, але тут гэты элемент пакінуў больш моцныя сляды.

Чарговым важным звяном беларускай гістарычнай тоеснасці з'яўляецца горад Полацк, які выконваў ад XII стагоддзя самастойную ролю і адкуль выпраменьваліся ў пазнейшых стагоддзях культурныя ўплывы на суседнія краі. Полацк з'яўляецца важным ланцугом паміж традыцыямі, запазычанымі з Візантыі, з Кіева і традыцыямі, сфарміраванымі пазней у Маскве.

Уніяцтва стала таксама спецыфічнай рысай гісторыі Беларусі, якое пакінула свой след. Аднак уніяцтва не было выключна беларускай з'явай. Яно не існавала б без спалучэння традыцый Візантыі і Кіева з уплывамі Рыма і Польшчы. У выніку выразна відаць, што нават найбольш спецыфічныя беларускія рысы набіраюць яскравасць толькі як звяно ў межах міжнароднага ланцуга.

Саўдзельнічаючы ў развіцці традыцый, якія перакрыжоўваліся на працягу стагоддзяў, жыхары земляў Літвы рускай, а потым Беларусі, пасрэднічалі таксама ў распаўсюджанні культурных уплываў, што ішлі з Захаду на Усход, альбо з Усходу на Захад. Архітэктары, рамеснікі, пісьменнікі з Полацка і з усёй Беларусі адыгралі значную ролю ў развіцці расійскай культуры. Сялянскі беларускі фальклор карміў славянскай аўтэнтычнасцю культуру суседніх народаў. Гэтым можна растлумачыць, чаму так шмат польскіх пісьменнікаў і музыкантаў паходзяць з беларускіх зямель. У польскай культуры каштоўнасці, створаныя элітай, займаюць прывілеяванае месца. Канфрантацыя "польскага элітарызму" з "беларускай сялянскасцю" стварыла надзвычай творчую мешаніну, якой польская культура бязмежна ўдзячна. Прозвішча Міцкевіча з'яўляецца найвышэйшым сімвалам таго сімбіёзу, але можна бясконца павялічваць спіс значных для г[illegible]кай культуры постацяў ці родаў, якія п[illegible]дзяць з зямель, заселеных беларусамі: Сапегаў, Радзівілаў, Касцюшка, Манюшка, Ажэшка і г.д. Уласцівасцю гэтай зямлі было тое, што яна выдавала свету постаці, якія спалучалі ў сабе рысы, узятыя з розных культурных традыцый.

[illegible]20-м стагоддзі яўрэі-літвакі, а значыць [illegible]ларускія, адыгрывалі важную ролю ў развіцці сусветнага мастацтва, і цяжка заўважыць гэты факт, не заўважаючы пры гэтым той інтэграцыйнай ролі, якую адыгрывала ў тым працэсе беларуская зямля.

Марк Шагал відавочна найбольш вядомая постаць гэтага асяроддзя, але той факт, што ён не з'яўляецца асобным выпадкам, прымушае нас сканцэнтравацца на тым, чаму беларуская зямля была калыскай таго культурнага працэсу.

Калі б неабходна было коратка ахарактарызаваць гісторыю Беларусі, то можна было б адназначна сцвярджаць: Беларусь гэта тая зона, дзе бесперапынна адбываецца працэс пераплаўкі рознародных уплываў і ўзаемнага пранікнення розных культурных традыцый. Здзіўляючым спосабам Беларусь, традыцыі якой у значнай ступені абапіраюцца на вясковы фальклор, і якая для палякаў, напрыклад, увасабляецца сялянкай, страчанай ідыліяй, як галоўнай рысай характару, выказвае аднак адсутнасць правінцыялізму і замыкання на сабе. Беларусь выдала свету ўвогуле зашмат людзей, якіх можна залічыць як двух ці шматнацыянальнымі. Мала ёсць у вас, напрыклад, значных гістарычных постацяў, пра якія можна было б сказаць адназначна: "То быў толькі беларус і ніякі іншы народ не можа яго сабе прысвоіць". Беларусь у пэўнай меры з'яўляецца зямлёй, якой наканавана ідэя адкрытага грамадства, універсалізму, інтэрнацыяналізму. Аднак у сучасным свеце вымагаецца ад кожнага чалавека і ад кожнай групы яснае акрэсленне іх тоеснасці, адсутнасць жа адназначнага адказу можа быць успрынята як праява ненармальнасці.

### НЕРЭАЛЬНАСЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНАГА БЕЛАРУСКАГА ПРАЕКТУ Ў ЭРУ НАЦЫЯНАЛІЗМУ

Не падлягае сумненню, што беларусам па гістарычных прычынах у вельмі малой ступені ўдалося ўключыцца ў бег еўрапейскага працэсу XIX стагоддзя ў пабудове сваёй уласнай нацыі. Праўда, яны не цалкам зліліся з большай нацыяй, як, напрыклад, корнвальды, палабы, аксытаньчыцы, фрызы.

**Бруна ДРВЕСКІ.**

*Пераклад з польскай мовы М. ЯНІЦКАЙ.*

(Працяг будзе.).

## ПАМІЖ КАТАЛІЦТВАМ І ПРАВАСЛАЎЕМ

# ВЯРТАННЕ АДШЧАПЕНЦАЎ

Толькі ступіўшы на трон, ён дазволіў усім падданым асабіста яму скардзіцца на розныя ўціскі і здзекі. Сярод сялян папаўзлі чуткі, што дабрадзейны цар рашыў вызваліць іх ад прыватнай залежнасці панам, а вось толькі дваране хаваюць царскі ўказ аб волі. У студзені 1797 года за пераход пад дзяржаву разгарнуўся сялянскі рух у былой Полацкай губерні, што апынулася ў складзе Беларускай губерні. Мужыкі накіравалі ў Пецярбург хадайнікаў са скаргамі, якія дапамагалі пісаць уніяцкі поп з Язерскага староства Рыгор Вячэрскі, обальскі ксёндз Павел Шыбека, усвяцкі пратапоп Васіль Івашка. У адказ 2 студзеня цар прыслаў войскі "для пресечения мятежности" і пакарання падбухторшчыкаў. Бунт быў заліты крывёю. З 858 завадатараў бізуном ды палкамі скалечылі і 8 уніяцкіх папоў.

Тым часам хваляванні падкацілі да Мінскай губерні, куды выехаў сам цар. Падчас набажэнства ў маёнтку Нача 8 верасня 1797 года трое сялян-уніятаў адважна падалі Паўлу I нейкую паперу. З тае запіскі цар убачыў, што большасць аправаслаўленых уніятаў не ходзяць у цэрквы, бо "никогда не имели добровольного желания оставить унию". Цар даручыў мінскаму губернатару З.Карнееву "без огласки, самым кротким и ласковым образом" даведацца, чаму пакрыўджаныя ўхіляюцца праваслаўя і ці "действует тут ухищрение поверх духовных и помещиков" нейкай трэцяй сілы. Ён загада[illegible]ры тым уладкаваць у некато[illegible] цэрквы выгнаных святароў, а пазаштатным выдаць па 50--100 рублёў і не чыніць прымусу над тымі сялянамі, якія добраахвотна пакінулі уніяцтва.

Як былы масон, З.Карнееў адказаў, [illegible] пры абарачэнні "нигде не на[illegible]дали общего желания поселян", што пры тым гвалтоўна парушылі гаспадарчыя і сваяцкія сувязі і што самі вернікі не могуць без падтрымкі ўтрымліваць цэрквы. Грошай не хапала, а святыні парахнелі. Давялося ізноў адступаць. Пачалося адваротнае вяртанне сектантаў. Следствы ж над прычынамі такога тлуму расцягваліся.

А тут 14 сакавіка 1798 года цару данеслі, што маскоўскія ксяндзы-дамініканы "отлучаются без нужды" ў навакольныя вёскі. Аднак маскоўскі ваенны губернатар Архараў паведаміў, што ў Маскве тых ксяндзоў зусім няма! Але ж яны былі ў памежных губернях! І вось 29 сакавіка віленскі губернатар Я.Булгакаў загадвае віленскаму і жмудскаму епіскапам, каб манахі ўсіх ордэнаў "непристойным их званию образом не таскались с одного на другое место", а біскупы паведамлялі яму, куды, да каго, за якой справай, на які час яны адлучыліся. Памянёны Карнееў зрабіў тое ж, але з падпіскамі настаяцеляў манастыроў. Беларускі губернатар С.Жагулін так выцягнуўся ў стараннасці, што "простер строгость воспрещения на все без изъятия монастыри, ибо они не утвердились еще в преданности и большая часть из них исполнены были желанием видеть нашествие поляков (пры паўстанні 1794 года — **Я.А.**) на Белоруссию и обращение ее в прежнее бытие". Вось яна, трэцяя палітычная сіла.

Каталіцкі архіепіскап С.Сестранцэвіч кінуўся ратаваць падначаленых і пацярпелых. Ён пісаў, што гэта ўлады прыціскаюць святароў за чыненні абедняў у каталіцкіх касцёлах. Але ж, пытаўся ён, што рабіць звольненым плябанам, калі праваслаўныя епіскапы захапілі 15 уніяцкіх манастыроў з цэрквамі ды яшчэ пагражаюць "по праву занять и другие монастыри", што ў Мінскай і Беларускай губернях уніяцкае простанароддзе засталося без духоўнікаў, так што шлюбы і пахаванні адбываюцца ў прысутнасці адзіных родзічаў?! Калі царскія ўлады не забяспечылі новаабернутых вернікаў сваімі свяшчэнаслужыцелямі, тады навошта перашкаджаць асірацелым авечкам хадзіць у каталіцкія касцёлы? Бо, гаварыў ён, уніяты ўсё роўна "исповедывают католическую религию"!

Для расследавання хвалявання 80 тысяч сялян у Беларускай губерні выслалі генерал-лейтэнанта Ф.фон Ліндэра. На пачатку лістапада 1798 года той паведаміў. што чэпелеўскі войт Васіль Махін "напаивал допьяна не один раз благочестивого священника, привязывал его к носилкам, на которых мертвых носят, и при колокольном звоне вынашивал как мертвого к церкви". Ліндэр адзначыў, што ўласна паводзіны свяшчэннаслужыцеляў зрабілі "греческую религию презренной". Таму народ і стаў адступаць ад яе: хрэсьбіны, пахаванні, прычасці і споведзі па-ранейшаму "отправлются тайно униатскими попами". А мясцовыя начальнікі нічога не маюць, акрамя аднае "рабской приверженности" да царскай асобы, бо ўсе яны "суть католики и не желают обличить замыслы униатов, своих так сказать почти единоверцев". Зрабіць усіх іх рускімі і чэснымі загадам было немагчыма. Ліндэр папрасіў Жагуліна не гвалціць вернікаў у праваслаўе, а мітрапаліту Гаўрыілу рэкамендаваў разаслаць павучальнае настаўленне для духавенства. 11 кастрычніка Сінод загадаў падпіскамі праваслаўных папоў ва ўсіх далучаных землях не чыніць прымусу пры абарачэнні уніятаў і прыгразіў вінаватых пазбавіць сану і пасад. Аднак обер-пракурор 23 снежня 1798 года папярэдзіў, што ўказ у Беларускай губерні нават "самыми благонадежными католиками признан для господствующей религии возмутительным". Даводзілася ізноў саступаць, ізноў пакідаць адшчапенцаў ва ўпраўленні каталіцага кліру.

Сацыяльны кантэкст падобных хістанняў выдатна разумелі нават самыя старанныя абрусіцелі. Адзін з іх, князь М.Хаванскі, пазней скажа, што памешчыкі далучаных тэрыторый усяляк намагаліся трымаць сялян "в неограниченной от себя зависимости: уния во всем том способствовала". Наступам на ўніяцтва, якое вызнавала большасць прыгонных, царызм у першую чаргу абмяжоўваў панскае свавольства, дэманструючы сябе як абаронцу і вызваліцеля. Не стварыўшы падараваннямі рускае землеўладанне пануючым, гэты ўрад хацеў зрабіць сялян адзінавернымі, каб трымаць у цугах паноў-іншаверцаў. Паражэнні ў барацьбе за сялянскія душы і сэрцы прымушалі царызм неаднойчы адступацца ад планаў масавага аправаслаўлення уніятаў.

Судны дзень для апошніх наспеў у 1832 годзе, калі полацкі уніяцкі сабор навечна злучыў тую секту з афіцыйным праваслаўем. Звадкі вакол уніі вяліся не толькі за тое, як назваць далучаны край -- польскім або рускім. Барацьба вялася за тое, хто і як будзе самаўладна гаспадарыць тут, неабмежавана распараджацца працай і думкамі вернікаў-сялян. У гэтым рэчышчы лаўры трыумфатара пажынаў царызм. І руска-праваслаўны і польска-каталіцкі бок тузалі уніятаў на сваю карысць як статак, бо па-сапраўднаму аднолькава не лічыліся з самастойным існаваннем беларускага народа. Менавіта з-за гэтай валтузні абаронцаў і вызваліцеляў сярмяжны беларускі люд і трымаўся стагоддзямі пасяродкі паміж уладнымі ваярамі.

**Яўген АНІШЧАНКА,**
**кандыдат гістарычных навук,**
**старшы навуковы супрацоўнік**
**АН Беларусі.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 21, 22.**



## ПАБРАЦІМСТВА

**Некалькі гадоў назад пабрацімам Баранавічаў стаў аўстрыйскі горад Штокераў, чыім іменем у майскія дні быў названы адзін з бульвараў у цэнтры беларускага горада. Вялікая група аўстрыйцаў на чале з бургамістрам Леапольдам Рыхентцкі прыбыла на гэтае мерапрыемства. Была дасягнута дамоўленасць абменьвацца культурнымі праграмамі, пасылаць у госці адзін да аднаго лепшых людзей, падтрымліваць эканамічныя сувязі.**

**НА ЗДЫМКАХ: бульвар Штокераў ў Баранавічах; іграюць аўстрыйскія музыканты.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**



# САР'Я

**(НАРЫС З ГІСТОРЫІ МАЁНТКА І РОДУ ЛАПАЦІНСКІХ)**

Апошняя вельмі ўразіла маладую Жалтоўскую, якая запісала пра яе наступнае: "Гэта была асоба, як мне падалося, старая, худая, непрыгожая, гладка прычасаная і сціпла апранутая, грубаватая і незалежная, якая дазваляля сабе называць пана Лапацінскага: "Гэй, ты, стары!" -- што той цярпеў, выбачаючы ёй многае, магчыма, па прычыне яе адданасці".

Маладога Эўзебіюша Лапацінскага Яніна Жалтоўская ўпершыню ўбачыла ў 1905 годзе ў Вільні, куды з сар'янскага маёнтка яго выправіў на пэўны час бацька, які сцярогся хвалянняў латышоў, што палілі замкі баронаў і мардавалі іх уладароў у суседніх Інфлянтах. Зібі быў "прыемны ў размове, вельмі інтэлігентны, можа трохі арыгінальны з прычыны старасвецкіх манер, -- пісала пра яго Жалтоўская. -- Ён здаваўся сур'ёзным і ўраўнаважаным і адпавядаў меркаванню, распаўсюджанаму пра ліцвінаў (...) Маладога чалавека, здавалася, атачалі чары рамантычнай натуры, ён першы сярод знаёмых пачаў задумвацца над значэннем роду, традыцыі, гісторыі, апавядаў пра генеалогію, пра старыя партрэты, што віселі ў Сар'і, пра свавольствы пані Дароты Лапацінскай, колішняй уладаркі Кайран пад Вільняй. Ён расказваў нават пра духаў, бо яго цётка, пані Ржавуская, бачыла ў Сар'і прывід ужо памерлага дзядулі Тамаша, мужа пані Дароты". (У гэтым месцы аўтарка мемуараў дапусціла невялікую недакладнасць. Мужа пані Дароты і дзядулю Соф'і Ржавускай звалі Юзаф).

Да шлюбу сына ў 1905 годзе з Ядвігай з Патвароўскіх Станіслаў Лапацінскі адбудаваў новы палац у Лявонпалі, які яшчэ падчас паўстання 1863 года дарэшты спалілі расійскія казакі, тым самым помсцячы за чынны ўдзел прадстаўнікоў роду ў збройным чыне супраць улады. Яніна Жалтоўская разам з іншымі родзічамі была запрошана ў Лявонпаль у траўні 1907 года на хрэсьбіны маленькай Тэклі, дачкі сваёй кузіны і Зібі Лапацінскага. Яе ўражанні ад гэтага падарожжа і ўпершыню ўбачанага ёю лявонпальскага палаца варта працытаваць поўнасцю: "Раніцай мы пераселі ў Дынабургу і толькі праз пару гадзін даехалі да станцыі, назвы якой я не памятаю і дзе нас чакаў прыгожы новы вазок, запрэжаны чацвёркай венгерскіх коней у англійскіх хамутах, яшчэ адна брычка і нізка кланяючыся нам Эўзебіюш. Нам трэба было яшчэ пераправіцца праз Дзвіну з паўночнага берага на паўднёвы, але і так (...) ужо бачны быў здаля Лявонпаль, белы дом, пастаўлены высока і абкружаны старымі дрэвамі. Мы праехалі гразкай дарогай праз вёску, па мосце праз роў, поўны вады, і праз высокую, шыкоўную, атынкаваную белым браму ўз'ехалі на вялізны і пусты дзядзінец. Лявонпаль, пабудаваны ў XVIII стагоддзі, праз пару пакаленняў стаў нежылым, яго аберагалі адно ад вільгаці і падцёкаў, а пан Лапацінскі аднавіў толькі да шлюбу сына. Гэта быў тыповы дом з прэтэнзіяй на палац, у класічным стылі, з тоўстымі сценамі, вялікімі вокнамі, двухсхільным дахам, свежа атынкаваны, што асабліва падкрэслівала прынцыповую суровасць гэтай пабудовы. Сутарэнні былі такія высокія, што на першы паверх дома даводзілася ўзыходзіць па вялікай колькасці прыступак. Унутры вялікія пакоі адпавядалі масіўным вонкавым памерам. З першай хвіліны мяне агарнула пачуццё расчаравання (...) Сцены ў Лявонпалі, як у замчыску, былі абклеены ўзорыстай паперай, у салоне, дзе лёгка маглі таньчыць 50 пар, крыва пастаўленыя канапы ў стылі Людовіка Філіпа і пара сталоў стваралі ўражанне пераезду. Мая цётка, як частку пасагу Дзюні (так ласкава называлі ў сям'і жонку Эўзебіюша Ядвігу. -- **Л. Х.**), набыла сучасную мэблю для сталовай і спальні, і гэтая сучаснасць курчылася і нікла ў занадта вялікіх пакоях".

Шлюб Эўзебіюша Лапацінскага з Ядвігай з Патвароўскіх быў, аднак, непрацяглым. Маладыя не сышліся характарамі і не выказвалі асаблівага жадання разумець адзін аднаго. Пражыўшы разам некалькі гадоў у Лявонпалі, яны разышліся. Прызваннем Зібі была гісторыя, і, зацікавіўшыся навуковымі даследаваннямі, ён у 1911 годзе перасяліўся ў Варшаву. Працуючы ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі Красінскіх, ён сабраў там вялікі навукова-дакументальны матэрыял, а таксама калекцыю малюнкаў, медалёў і карцін, частка якой загінула ў 1914 годзе падчас І-й сусветнай вайны.

Сямейныя зборы Лапацінскіх на пачатку XX стагоддзя па-ранейшаму захоўваліся ў Сар'і пад апекай пана Станіслава. Імі пакрысе пачалі цікавіцца спецыялісты-гісторыкі, а таксама складальнікі рознага кшталту даведнікаў і энцыклапедый. Станіслаў і Эўзебіюш Лапацінскія і самі былі нястомнымі папулярызатарамі гістарычнай і культурнай спадчыны роду. Па просьбе Якуба Гейштара, вядомага публіцыста і актыўнага ўдзельніка паўстання 1863 года, які рыхтаваў да друку свае "Успаміны 1857--1865 гадоў", Станіслаў напісаў біяграфію свайго бацькі, дрысенскага маршалка Ігната Лапацінскага. Станіслаў і Эўзебіюш пэўную дапамогу аказалі і Генрыху Масціцкаму, які выдаў мемуары Станіслава Шумскага. Аднак асаблівую ўдзячнасць заслужыў Эйзебіюш Лапацінскі ад гісторыка Отана Гедзмана, аўтара "Гісторыі Браслаўскага павета", якому ён аказаў прафесійную дапамогу як вопытны даследчык-архівіст. У прадмове да сваёй кнігі Гедэман пісаў: "Сардэчную ўдзячнасць хачу выказаць пану Эўзебіюшу Лапацінскаму за магчымасць атрымаць доступ да багатага сямейнага архіва Лапацінскіх, аднак яшчэ большую -- за правядзенне доўгага шэрагу гадзін у паралельных з аўтарам архіўных пошуках; цэлыя стосы складзеных ім нататак з'яўляюцца нямымі сведкамі таго, як шмат абавязана гісторыя павета яго шляхетным намерам, шчасліва злучаным з веданнем прадмету".

У 1926--1927 гадах Э. Хвалевік выдаў два тамы даведніка "Польскія зборы", дзе апісаў усе вядомыя яму дзяржаўныя і прыватныя бібліятэчныя ды музейныя калекцыі. Паводле яго звестак, сар'янская бібліятэка на пачатку XX стагоддзя налічвала каля 9 000 тамоў, сярод якіх было шмат старадрукаў XVII--XVIII стагоддзяў. І сустракаліся кнігі нават XV стагоддзя. Сярод дакументаў архіва захоўвалася каля 3 000 лістоў розных знакамітых асоб пераважна XVIII стагоддзя. На сценах пакояў панскага дома ў Сар'і былі развешаны карціны мастацкай калекцыі Лапацінскіх: творы Яна Рэгульскага, Яна Рустэма і іншых вядомых майстроў. Лявонпальскі збор Эўзебіюша Лапацінскага складаўся з кніг пераважна XYI--XYII стагоддзяў. І вялікай (каля 3 000) калекцыі малюнкаў.

У 1919 годзе падчас польска-савецкай вайны сар'янскі маёнтак падпаў пад рабункі бальшавікоў. 16 снежня 1919 года пры загадкавых і нявысветленых абставінах згарэў лявонпальскі палац, які пасля аднаўлення муроў Эўзебіюш Лапацінскі перадаў пробашчу мясцовага касцёла для ўладкавання ў будынку былога палаца каталіцкага храма. Сар'я таксама была разрабавана, і вялікая частка сямейных збораў у ёй загінула. Напэўна, каб засцерагчы ад магчымага знішчэння рэшткі калекцыі, Станіслаў Лапацінскі ахвяраваў іх "Таварыству сяброў навукі ў Вільні". Наконт велічыні гэтага ахвяравання захаваліся супярэчлівыя звесткі. Э.Хвалевік, напрыклад, адзначаў, што ад пагрому ацалела 1 725 архіўных спраў і больш за 2 000 тамоў кніг. У той жа час прафесар С.Касцялкоўскі, пералічваючы крыніцы фарміравання бібліятэкі і аддзела рукапісаў архіва "Таварыства сяброў навукі", пісаў, што ахвяраваны кнігазбор сям'і Лапацінскіх з Сар'і налічваў каля 6 000 тамоў, выдадзеных у XYIII на пачатку XIX стагоддзяў, а архіў -- каля 10 тамоў карэспандэнцыі XYIII стагоддзя. Да апошніх звестак больш дапасуецца і паведамленне сучаснага польскага даследчыка Вацлава Шчыгельскага аб тым, што рэшткі сар'янскага архіва склалі 14 тамоў перапіскі Тамаша Лапацінскага і яго брата Яна Нікадзіма. У зборы віленскага "Таварыства" трапілі таксама партрэты Станіслава Шумскага і яго жонкі Марыі з Мірскіх пэндзля Яна Рустэма.

Зараз колішні архіўны збор "Таварыства сяброў навукі" захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы. Дакументы роду Лапацінскіх у ім аб'яднаны ў 399 адзінак захоўвання і храналагічна ахопліваюць амаль тры з паловай стагоддзі -- з 1571 па 1912 год. Сярод гэтых дакументаў -- радаводныя і гаспадарчыя справы Лапацінскіх, іх карэспандэнцыя, філасофскія і рэлігійныя нататкі, калекцыя літаратурных і тэатральных твораў. Апроч таго, цікаўны даследчык зможа знайсці тут дакументы аб палітычных падзеях у Кароне і Вялікім Княстве Літоўскім, а таксама паперы, якія тычацца спраў родаў Сапегаў, Шадурскіх і Плятэраў. Варта таксама адзначыць, што яшчэ 349 спраў з архіва Лапацінскіх, датаваных 1575--1846 гадамі, захоўваюцца зараз у бібліятэцы Літоўскай акадэміі навук.

У 1921 годзе, паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора, уладанні Лапацінскіх аказаліся падзеленымі дзяржаўнай мяжой на дзве часткі: Сар'я апынулася на тэрыторыі БССР, Лявонпаль -- Польшчы. Эўзебіюш Лапацінскі ў міжваенны час жыў галоўным чынам у Вільні, дзе працаваў у Дзяржаўным архіве. Да нашага часу ў бібліятэцы універсітэта ў г. Вільнюсе захоўваюцца дакументы яго прыватнага фонду за 1907--1941 гады. Пасля 2-й сусветнай вайны Эўзебіюш пераехаў у Варшаву, дзе заставаўся да канца жыцця і працаваў у Дзяржаўным інстытуце гісторыі мастацтва і інвентарызацыі помнікаў пры Галоўнай дырэкцыі музеяў і аховы помнікаў. Ён з'яўляецца аўтарам шэрагу навуковых прац па гісторыі мастацтва Вялікага Княства Літоўскага. Усе яны былі выдадзены на польскай мове, і сёння колішні ліцвін лічыцца вядомым польскім мастацтвазнаўцам, талент і веды якога складаюць гонар іншай дзяржавы.

Лёс Сар'і пасля далучэння да савецкай Беларусі быў неад'емны ад лёсу ўсёй краіны, якая жыла імкненнем да светлых ідэалаў і найвялікшым ачмурэннем мільёнаў сваіх насельнікаў. У 1920-х гадах у колішнім доме аканома Лапацінскіх Станіслава Сяліцкага была адчынена школа, амаль у самым цэнтры сар'янскага парку вырас двухпавярховы драўляны будынак -- дом адпачынку пагранічных войск, у які некалькі разоў у канцы 1930-х гадоў наведваўся савецкі маршал, жывая легенда Сямён Будзённы.

Вогненнай хваляй пракаціліся праз маёнтак падзеі 2-й сусветнай вайны. Ваколіцы Сар'і зрабіліся партызанскім краем, дзякуючы чаму тут была знішчана асабліва вялікая колькасць мірнага насельніцтва. Жарнасекі, Сокалава, Папартнае, Бабы, Козлава, Фальваркова, Ціршава, Ракшні... Усе гэтыя вёскі, што некалі ўваходзілі ў склад сар'янскага маёнтка, былі спалены разам з жыхарамі падчас карнай экспедыцыі нямецка-фашысцкіх акупантаў у лютым 1943 года. Ніводная з іх пазней не змагла адрадзіцца. Вялікія брацкія магілы ахвяр фашызму знаходзяцца ў цяперашніх вёсках Сар'я і Росіца. Сар'янскі сельсавет лічыцца найбольш пацярпеўшым ад фашысцкай акупацыі ў маштабах усёй рэспублікі. Усяго ж на тэрыторыі Верхнядзвінскага раёна стаяць 17 мемарыяльных знакаў, якія сведчаць аб тым, што да вайны на іх месцы існавалі паселішчы.

Вось, шаноўныя чытачы, мы і дабраліся разам да апошняга аркуша аповяда пра сар'янскія ўладанні роду Лапацінскіх. Спадзяюся, гэтае даследаванне будзе мець свой працяг у працах іншых гісторыкаў і краязнаўцаў. А на заканчэнне прыгадайма радкі паэта Алеся Разанава:

**Аркуш паперы --**
**аркуш жыцця:**
**забіраецца час,**
**збіраюцца знакі.**

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у NN 16 — 22.**

# КАРАЛІШЧАВІЧЫ, КАРАЛІШЧАВІЧЫ...

## (СТАРОНКІ НЕ ХРЭСТАМАТЫЙНЫЯ)

Мне больш за ўсё запомніўся той малады Мележ, як вельмі ўважлівы і клапатлівы бацька. Я ні разу не пачула, каб ён калі ўзвысіў на дзіця голас ці каб нешта загадаў, а яно адмовілася. Яго слова было законам, але не цяжарам для дзіцяці. Дзяўчынка ўставала разам з бацькам, мылася і сама, як дарослая, заплятала свае цудоўныя светлыя цераз усе плечкі косы з ружовымі бантамі. І, гледзячы на іх дваіх збоку, нельга было не захапляцца і не пазайздросціць...

Памятаю, што мы тады часта хадзілі гуляць па лесе, хадзілі ў суніцы за Доўнараву хату -- там тады на полі былі такія шырокія незааранныя паплоўчыкі ўздоўж нявыкарчаванага дубняку і рэдкіх кустоў шыпшыны. На тых паплоўчыках як насыпана ўсё роўна было да чарнаты выспелых суніц... Цяпер не засталося ўжо і следу ні тых паплоўчыкаў, ні дубняку, ні шыпшыны, ні суніц. Няўмольным жалезным крокам там па голым цяпер палетку сягае лінія высакавольтных перадач... Хадзілі мы туды з Лідай Кірэенка, нябожчыкам Стаховічам і Мележам (а пра яго, пра Мележа, так цяжка пісаць руцэ "нябожчык"...).

Жуір Стаховіч нязменна фліртаваў: інакш трымацца з жанчынамі ён не ўмеў. А Мележ ірваў то адной з нас, то другой -- каб лішняе не бралі сабе ў галаву! -- духмяныя кусцікі суніц і спяваў (у яго быў прыемны мяккі барытон) модную ў тыя гады песеньку:

Мы с тобою не дружили,
Не встречались по весне,
Но глаза твои большие
Не дают покоя мне.

І нам с Лідай, тады яшчэ зусім маладым жанчынам, было прыемна яго слухаць...

* * *

...Яшчэ ў кастрычніку мінулага года я пісала першыя старонкі сваіх успамінаў, і слёзы засцілалі мне вочы.

І вось мінулася восень і засыпала яго сляды залатым лістападам. І наступіла зіма. І таксама прыбрала яго дамоўку снегам.

Срэбны і чысты, як сабор, лес нячутна звоніць вечную памяць яго заціхлым крокам. І яго думкам, што не зніклі, а толькі адляцелі...

Адыходзіць і сціхае боль успамінаў. Высыхаюць слёзы...

Час сцірае надпіс на камянёх?..

*16 студзеня 1977 г.*

Каралішчавічы.

## 4. ЯК ВАЛЬТЭР У КРЭСЛЕ...

Згарэла Доўнарава хата ў Каралішчавічах. Ні коміна, ні галавешкі, ні хаця б якога знаку не засталося.

З саракавых гадоў яшчэ -- памятаю -- валодалі гэтай хатай і хутарам старыя Доўнары. Яны і тады ўжо былі не маладзёны. Шляхетны з выгляду, з годнай паставай, негаваркі сам гаспадар. І яго заўсёды праставалосая і не заўсёды зашпіленая лапатуха-гаспадыня. Чаго яна толькі пра каго не ведала і чаго толькі не ўмела! І знахарыла-шаптала -- лячыла пісьменніцкіх дзяцей ад пярэпалаху, ад падзіўкаў і нават ад заікання... І адпойвала, беручы добра за шклянку, казіным малаком (у загарадцы ад лесу мэкала чарада коз) нават самых заморкаў. А колькі самагонкі было выпіта з яе аматарскае "фабрыкі", як сама яна, падміргваючы, звала яе, пісьменнікамі! Таксама аматарамі, вядома...

А потым, як старыя памерлі (а, можа, з'ехалі да дачок?), гаспадарыла ў той хаце, злепленай з катушкоў-пакойчыкаў, ужо Таня-паварыха са сваімі дзецьмі і гаспадаром, шафёрам Дома творчасці, добрым выпівохам, Эдзікам. На былой палавіне старых Доўнараў -- пакуль не збудавалі для супрацоўнікаў капітальны цагляны дом -- кватаравалі дзяўчаты-афіцыянткі. А ў іх пастаянна то ў адной, то ў другой, а то і ва ўсіх траіх адразу заўсёды начавалі іх хлопцы -- каторы з Апчака, каторы з Сіняло, а то і з самога Мінска...

Гвалту, сварак, разборак там хапала па нехачу. Але нейкая дзіўная людская, ці, дакладней, жаночая спайка там існавала ўсё ж. Пакуль усё жыхарства гэтай напакаванай, як рукавіца, хаты не рассыпалася па свеце -- хто куды.

І вось згарэла Доўнарава хата. Зіма снегам засыпала пажарышча. Вясною прыйдзе бульдозер -- і следу нават не пакіне, успаміну. Як і не было тут ніколі нікога.

...Мінулым яшчэ годам вадзіла я туды дзяцей, якія бавілі ў Каралішчавічах свае зімовыя канікулы, вадзіла ў пустую ўжо хату з вытаўчанымі вокнамі (у нас гэта абавязкова павінна спадарожнічаць пакінутаму жытлу), з расхрыстанымі насцеж дзвярыма... [illegible]е ж стаялі сцены, і была стра[illegible] ў пустой хаце ў кутку туліла[illegible], як учора купленая, бліскучая паліраваная шафа. Пэўна, яна ўжо не патрафляла сваім бляскам новай модзе -- інакш ці кінулі б яе вось гэтак гаспадары? Н[illegible] абшарпаным туалетным ст[illegible]м з шыкоўнага, яшчэ з сара[illegible]ых гадоў рыжскага гарнітура, невядома калі і кім перанесенага ў гэту хату з вялікага Дома, звісалі пашкуматаныя аблезлыя шпалеры. На кухонным стале камянела непачатая буханка замерзлага хлеба... І дзеці, нязвыкла прыціхлыя, няпсмела торкалі ў яе пальцам і здзіўлена пыталіся: "А чый гэта хлеб?.." На пліце невядома каго чакаў чыгунок гэтаксама ўмерзлай неабіранай бульбы. Разам з жыльцамі ў хаце, відаць, сялілася яшчэ і гіпертанія, пэўна, і сардэчная недастатковасць таксама: на двуногім, дашчэнту выцертым плюшавым крэсле рассыпана была цэлая аптэка: папазол, валідол, кроплі Зяленіна ў бутэлечцы... Двуногае крэсла, як і шыкоўны некалі столік, таксама трапіла ў гэту хату з вялікага Дома. Многа гадоў назад вельмі спаважна і паглядна займала яно там месца ў ніжнім вестыбюлі.

У гэтым самым крэсле, памятаю, аднойчы, пасля адпаведнай нагоды, заснуў у позе нявіннага дзіцяці малады яшчэ Валодзя Караткевіч. Памятаю, як тады ж, яшчэ таксама па-маладому ўзбягаючы па лесвіцы на другі паверх, як быццам няўзнак, зусім бяскрыўдна, з аднаму яму прысутным гумарам, кіўнуў на "заснуўшага Вакха" Янка Брыль:

-- Караткевіч як Вальтэр у крэсле!

...Згарэла Доўнарава хата, згарэла старое плюшавае крэсла з вялікага Дома. Пакінуў назаўсёды сваю Краіну пад белымі крыламі і сам апантаны яе падарожнік... А той мімалётны ўсмешлівы Брылёў успамін -- дзіўна! -- жыве.

-- Караткевіч як Вальтэр у крэсле!

Каралішчавічы, Каралішчавічы... Які лёс стрэў вас саміх сёння?..

*1987 г.*

Алена ВАСІЛЕВІЧ.

Працяг.
Пачатак у № 21



**У пачатку мая ў канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі ансамбль "Песняры" паказаў сваю новую праграму "Вольнасць".**

**Здымак зроблены ў час канцэрта.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

## ГАРТАЮЧЫ "БЕЛАРУСІКУ"

# КРОК ДА АБ'ЯДНАННЯ

Пад эгідай Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны, Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" ў выдавецтве "Навука і тэхніка" пабачыў свет пяты выпуск кнігі "Беларусіка-ALBARUTHENICA". Гэтае выданне заснавана ў 1993 годзе і, як правіла, змяшчае ў сабе розныя матэрыялы, што тычацца ўзаемаадносін беларусаў з суайчыннікамі за мяжой, а гэта звычайна выступленні, якія прагу[illegible] ў час розных канферэнцый, наладжаных тымі, хто і з'я[illegible]цца ініцыятарам выпускаў "Беларусікі". У прыватнасці, змест пятай яе кнігі складаюць матэрыялы міжнародных навуковых канферэнцый "Культура беларускага замежжа", што прайшла дзякуючы намаганням Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", і "Беларуска-амерыканскія гістарычна-культурныя ўзаемадачыненні" -- ініцыятар--цэнтр імя Ф.Скарыны ([illegible]бедзве адбыліся ў чэрвені 1994 года). Зразумела, што колькас[illegible] дзельнікаў згаданых мерапрыемстваў была абмежавана, а[illegible]к тое, пра што гаварылася ў час правядзення іх, па сваёй актуальнасці заслугоўвае самай пільнай увагі людзей, неабыякавых да будучыні Беларусі, тых, хто рупіцца, каб беларусы, незалежна ад таго, дзе яны жывуць, адчувалі сябе адной сям'ёй, адной нацыяй.

Спачатку ў кнізе ідуць матэрыялы канферэнцыі "Культура беларускага замежжа". Як слушна сцвярджае Р.Гарэцкі ("Культура павінна жыць і аб'ядноўваць нацыю"), гэтае мерапрыемства -- "яшчэ адзін крок да аб'яднання беларусаў, да паразумення паміж імі, да пазнання культуры абодвух бакоў. Тут нам неабходна адкінуць ідэалагічныя шоры і ў ацэнцы тых ці іншых твораў кіравацца толькі іх сапраўднымі мастацкімі вартасцямі. Культура як эміграцыі, так і Бацькаўшчыны павінна стаць адзіным здабыткам адзінай беларускай культуры. Гэта праца патрабуе намаганняў з абодвух бакоў".

І на самай справе гэта так, але, разам з тым, нельга забываць, што на шляху аб'яднання беларусаў, на шляху паяднання культуры абодвух бакоў існуе тое, без дакладнага ўсведамлення чаго і правільнага разумення, немагчыма працаваць плённа і вынікова. Дарэчы, на гэтым засяроджвае ўвагу А.Сабалеўскі ("Праблемы вывучэння культуры беларускага замежжа"). Як не прыслухацца да яго меркавання, што "не трэба біяграфіі дзеячаў культуры, творцаў выроўніваць у адзін або другі бок, маляваць аднымі (ружовымі ці чорнымі) фарбамі. Хацелася б спадзявацца, што такі этап мы ўжо прайшлі".

І як не адчуць важнасць усёй справы, што не на дзень і не на два: "ідзе назапашванне невядомага раней матэрыялу, яго асэнсаванне, вядома ж, з сучасных пазіцыяў. Ліквідуюцца на розных дзялянках тыя або іншыя прагалы. Пераглядаюцца і састарэлыя ацэнкі раней вядомых падзеяў і фактаў. Усё гэта наперадзе трэба зрабіць, каб засесці за новую гісторыю -- гісторыю праўдзівую, па-сапраўднаму навуковую. Такая праца нялёгкая -- карпатлівая і, прабачце, патлівая. Але яе трэба рабіць і рабіць тэрмінова, выкарыстоўваючы ўсе свае магчымасці. Людзі павінны ведаць, што ў нас было і ёсць, якія ў нас былі і ёсць творцы, якімі валодаем духоўнымі скарбамі". Тут жа А.Сабалеўскі выказвае і спадзяванне, што гэтыя першыя звесткі "затым лягуць у фундамент глыбокіх навуковых даследаванняў".

А як відаць з выступленняў на канферэнцыі, фундамент закладваецца трывалы. Безумоўна, пра ўсе матэрыялы выпуску згадаць немагчыма, але і назваўшы толькі асноўныя з іх, лёгка адчуць, наколькі плённыя ўжо набыткі ў гэтым кірунку. Якое шырокае кола праблем хвалюе навукоўцаў, бачна па саміх назвах іх выступленняў: "Нацыянальная ідэя ў замежным беларускім друку па матэрыялах газеты "Беларус" У.Конана, "Гісторыя Беларусі ў даследаваннях нацыянальнай эміграцыі" Г.Сяргеевай, "Беларускія радыёперадачы ў замежжы" А.Ляднёвай, "Беларуская інтэлігенцыя на эміграцыі і чэшскае нацыянальнае адраджэнне" Л.Мірачыцкага, "Творчасць Сакрата Яновіча ў кантэксце беларускай навелістыкі" П.Васючэнкі, "Прысутнасць беларускай культуры ў мусульманскім свеце. На матэрыяле беларуска-сярэднеазіяцкіх зносінаў" А.Карлюкевіча, "З культурнай спадчыны літоўскіх татараў" І.Канапацкага і іншых.

Дарэчы, два апошнія матэрыялы пераконваюць, што канферэнцыя ў сваёй рабоце не абмяжоўвалася толькі высвятленнем узаемадачыненняў "культураў абодвух бакоў". Як і чакалася, быў зроблены выхад і на іншыя аспекты.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

### ВЕК КАНЧАЕЦЦА...

Адыходзяць за векам вякі
У надзеях, у стратах,
у скрусе.
Век канчаецца...
Хто ж я такі!
Як я зваўся, і як я завуся!

Цяжка ўспомніць усё,
што было,
За асноваю траціць аснову.
Дзякуй Богу, што не заняло
Мне амаль
нелегальную мову.

Толькі з гэтым
багаццем жывы.
Цешаць толькі надзеі і згадкі
Пра бяспраўе, пра нашы
правы,
Каб імя не забылі нашчадкі.

*8/III -- 10/IV 96.*

* * *

Забудуцца дарэмныя
трывогі
Пра нашу і не нашую бяду,
І хутка на вышэйшы суд
да Бога
З усімі грэшнікамі сам пайду.
Пакаюся ва ўсім і павінюся
І літасці адзінай папрашу --
Пакінуць назаўсёды
ў Беларусі
Маю замардаваную душу.

*5/IV 96.*

### ЗВАНЫ

Ледзь чутна бомкаюць
званы
І на капліцы, і ў саборы,
За паўстагоддзя і яны
Знямелі ад нягод і зморы.

Ледзь чутна клічуць
на імшу,
На паніхіду і вячэрню,
Бо ім скалечылі душу,
І ўжо язык ніхто не верне.

Чароўны голас даўніны,
Адняты ў неадольным
горы,
Панеслі срэбныя званы
У паўнаводныя азёры.

Калі ў рабінавай начы
Трашчалі і дубы, і клёны,
Часамі чулі асначы
Сярэбраныя перазвоны.

Асуджаныя без віны,
Паднятыя з таемных
спратаў
Ледзь чутна бомкаюць
званы,
Неачунялыя ад стратаў.

І глухнем, і нямеем мы,
А урачысты звон
прысніцца,
Калі пракоцяцца грамы
Над апусцелаю званіцай.

*1994--1996.*

### ПРЫЗНАННЕ

Не хваліце мяне і не лайце,
Я і сам крытыкую сябе,
Бо жыццё маё -- лата
на лаце,
За нягодай нягода дзяўбе.

Нарадзіўся, відаць,
недарэкам,
Бо у некага вечна ў даўгу,
І сучасным ніяк чалавекам
Не зрабіўся і стаць не змагу.

На мяне пазіраюць
з пагардай,
Разумею і сам, што дзівак
З біяграфіяй д'яблу
не вартай
Не прабіцца да вартых ніяк.

Што збіраў, безнадзейна
растраціў.
Мне б дайсці да растайных
дарог
І прызнацца нябожчыцы
маці,
Што душу і сумленне
збярог.

*8/IV 96.*

*СЛАВЯНСКІЯ ПЕРШАНАСТАЎНІКІ Ў БЕЛАРУСІ*

# ЯНЫ СЕЯЛІ ДАБРО

Гэтыя дзве ўрачыстасці прайшлі амаль не заўважанымі грамадствам. Свята ў 1885 годзе было больш грандыёзным ва ўсіх адносінах дзякуючы ініцыятыве ўладаў. Спецыяльныя распараджэнні і рашэнні аб арганізацыі свята прынялі Святы Сінод, Міністэрства народнай асветы, кіраўніцтва школ, манастыроў і царквы. Спецыяльна для Беларусі асобую ролю адыграў прадстаўнік Міністэрства народнай асветы ў Паўночна-Заходнім краі тайны саветнік П.Сергіеўскі.

У сувязі са святам праведзена і падрыхтоўка, якая забяспечвае друкаваныя і наглядныя матэрыялы. Святы Сінод выдае службу "Св. першанастаўнікам Кірылу і Мяфодзію". Санкт-Пецярбургскае славянскае дабрачыннае таварыства выдае тры жыццяпісы роўнаапостальных братоў пад загалоўкам: "Жыццё і подзвігі Св. Кірыла і Мяфодзія", "Кароткае паданне пра жыццё і подзвігі іх (на стараславянскай мове)", "Св. Кірыл і Мяфодзій Апосталы Славянскія". Надрукаваны таксама партрэты з лікамі салунскіх братоў.

Рукапіс пратакола пасяджэння вучылішчнага савета Мінскай дырэкцыі народных вучылішчаў ад 14 студзеня 1885 года сведчыць аб своечасовай падрыхтоўцы ўсіх школ у Беларусі да свята. Пасяджэнне, на якім прысутнічаюць двое інспектараў і кафедральны протаіерэй Рыгор Галін, прысвечана тысячагоддзю смерці Св.Мяфодзія і хадайніцтву Славянскага дабрачыннага таварыства "зрабіць залежнае распараджэнне аб вызваленні ад заняткаў у азначаны дзень усіх выхаванцаў вучэбных устаноў акругі, а таксама аб тым, каб у сценах гэтых былі наладжаны, пасля Боскай літургіі ў гэты дзень, урачыстыя сходы з вымаўленнем адпаведных выпадку прамоў і, калі будзе магчымасць, з духоўнымі спевамі". Вучылішчны савет прымае рашэнне: "Навучальныя ўстановы горада Мінска, падведамасныя Мінскай Дырэкцыі народных вучылішчаў, павінны азнаменаваць гэты ўрачысты дзень наступным чынам: пасля правядзення Боскай літургіі вучні ўсіх навучальных устаноў горада Мінска збяруцца ў будынак жаночага трохкласнага вучылішча, дзе перш за ўсё будзе прапеты трапар Св.Кірылу і Мяфодзію". Потым выкладчык Закона Божага, свяшчэннік Фёдар Міткевіч, зробіць кароткую прамову, у якой растлумачыць значэнне свята, дасць кароткі жыццяпіс вялікіх першанастаўнікаў і значэнне іх дзейнасці для славян. Пасля гэтага "будзе пачата малебства, па заканчэнні якога і пасля абвяшчэння звычайнага мнагалецця панам Дырэктарам вучылішчаў будзе сказана належная ўрачыстасці прамова". Далей праграма прадугледжвае, каб вучаніцы і вучні пачатковых вучылішчаў у Мінску праспявалі ў гонар Кірыла і Мяфодзія "Божа міласэрны" і іншыя песні, "пасля чаго дзецям будзе раздадзена кароткае жыціе Св. Кірыла і Мяфодзія".

Савет вучылішчаў Дырэкцыі лічыць неабходным і вырашае, што і сельскія народныя вучылішчы Мінскай губерні таксама павінны адзначыць дзень славянскіх першанастаўнікаў. "Для надання большай урачыстасці святу і для большага азнаямлення народа з святкуемай падзеяй Савет Дырэкцыі лічыў бы вельмі карысным, каб пасля заканчэння Боскай Літургіі і малебна ў царкве праведзены былі, пры спяванні трапара Св.Кірылу і Мяфодзію, хрэсныя ходы з цэркваў у вучылішчы, каб такім чынам тыя, хто моліцца ў цэрквах, маглі прыняць удзел і ў малітве ў вучылішчах". Пасля прыходу ў царкву мясцовы настаўнік Закона Божага павінен сказаць некалькі слоў аб жыцці і подзвігах Святых Кірыла і Мяфодзія, павінен быць адслужаны малебен, а потым дзеці праспяваюць гімн Кірыла і Мяфодзія і іншыя народныя песні.

Варта падкрэсліць яшчэ адзін бок рашэння мінскіх педагогаў, прынятага 108 гадоў назад. Яны лічылі патрэбным: "Абмяркоўваючы пытанні аб святкаванні дня памяці ў народных вучылішчах святых славянскіх першанастаўнікаў, Савет Дырэкцыі, акрамя таго, прыйшоў да заключэння аб неабходнасці набыцця кожным з народных вучылішчаў Мінскай губерні адлюстравання Святых Кірыла і Мяфодзія і жыція іх на працэнты з капітала, ахвяраванага маскоўскімі грамадзянамі на патрэбы вучылішчаў. Пры тым абавязаць выкладчыкаў вучылішчаў прачытваць навучэнцам жыція Святых першанастаўнікаў у дні памяці іх". Характэрны яшчэ і другі момант рашэння беларускіх педагогаў, прынятага больш стагоддзя назад. "Каб азначаны дзень 6 красавіка застаўся ў памяці нашчадкаў, Савет меркаваў бы адкрыць у гэты дзень, пасля заканчэння ўрачыстасці ў мінскім жаночым трохкласным вучылішчы, добраахвотную падпіску на заснаванне пры Дырэкцыі вучылішчаў кабінета і бібліятэкі, з набыццём для іх навучальных дапаможнікаў і кніг і назвай памянёныя кабінет і бібліятэку "Кірыла-Мяфодзіеўскі педагагічны кабінет".

Варты ўвагі і той факт, што савет вучылішчаў Мінска другі раз на сваім пасяджэнні 28 сакавіка 1885 года абмяркоўвае пытанні святкавання 6 красавіка, вусную прапанову Дырэктара аб парадку маючага адбыцца святкавання і забеспячэння навучэнцаў кнігамі "Жыція Св. Кірылы і Мяфодзія". Рашэнне мінскіх педагогаў сваёй канкрэтнасцю і сёння можа служыць узорам правядзення ўрачыстасцей вучылішчаў. Таму перадаю яго поўнасцю з рукапіснага арыгінала:

"1. Напярэдадні ўрачыстасці, 5-га красавіка, вучні і вучаніцы хрысціянскіх веравызнанняў усіх навучальных устаноў горада Мінска прысутнічаюць пры ўсяночнай у царкве мужчынскай гімназіі.

2. У дзень 6 красавіка дзеці хрысціянскіх веравызнанняў 3 і 4 класаў Гарадскога і 3-га класа жаночага 3-х класнага вучылішча ідуць у Кафедральны Сабор да слухання Боскай літургіі, прычым удзельнічаюць у чытанні малітвы "Ойча наш" і "Сімвала веры". Затым, разам з іншым, адпраўляюцца на плошчу і прысутнічаюць пры служэнні малебна. Навучэнцы малодшых класаў азначаных вучылішчаў, а таксама 1-га і 2-га прыходскіх вучылішчаў і жаночых, што значацца пры іх, і навучэнцы прыватных жаночых пансіянатаў прысутнічаюць пры служэнні літургіі і малебна ў царкве мужчынскай гімназіі, а затым на плошчы пры служэнні малебна Святым Кірылу і Мяфодзію. Пасля малебна на плошчы, навучэнцы ўсіх класаў азначаных вучылішчаў у дзве гадзіны дня збяруцца ў зале Дваранскага сходу для прыняцця ў акт, праграма якога выпрацавана Педагагічным саветам мужчынскай гімназіі. Пасля заканчэння акта навучэнцам будуць раздадзены кнігі "Жыція Св.Кірыла і Мяфодзія".

3. У 7-мы дзень красавіка, ва ўстаноўлены час, мае быць наладжана ў Мінскім 4-х класным гарадскім вучылішчы чытанне для народа ў наступным парадку: першапачаткова будзе прапеты навучэнцам тры разы "Хрыстос уваскрос" і трапар Св.Кірылу і Мяфодзію. Пасля спеваў трапара будзе прачытана пра жыццё, дзеянні Св.Кірыла і Мяфодзія, а вучань гарадскога вучылішча прачытае верш, прысвечаны Св. Кірылу і Мяфодзію. Затым навучэнцы Гарадскога і Жаночага 3-х класнага вучылішча выканаюць гімн Св.Кірылу і Мяфодзію, сачыненні Главача, а адна з вучаніц гэтага вучылішча прачытае верш Ключарава "Совет Христов". У заключэнне навучэнцы ўсіх навучальных устаноў выканаюць народны гімн".

Адначасова са святам у вучылішчах не менш урачыста праходзіла ўшанаванне славянскіх першанастаўнікаў ва ўсіх цэрквах Беларусі. Напярэдадні ўрачыстасцей у кафедральным саборы ў Мінску праведзена ўсяночнае дбанне Яго праасвяшчэнствам Варлаамам, епіскапам Мінскім і Тураўскім. У цэрквах і манастырах усяночныя праведзены мясцовымі настаяцелямі храмаў. Акрамя гэтага, рэктар семінарыі і настаўнік Закона Божага гімназіі прачыталі ў сваіх цэрквах да ўшанавання кароткія казанні пра жыццё першанастаўнікаў на славянскай мове. У царкве гімназіі, дзе сабраліся ўсе навучэнцы ва ўстановах Міністэрства народнай адукацыі, усе прысутныя трымалі ў руках запаленыя свечкі. У дзень свята ў кафедральнай царкве адслужана боская літургія, у канцы якой айцец Андрэй Юрашкевіч сказаў пропаведзь аб значэнні святых братоў для славянскага свету. К канцу літургіі ў царкву прыбываюць хрэсныя шэсці з усіх цэркваў Мінска. Вось як "Мінскія епархіальныя ведамасці" апісваюць далейшы ход урачыстасцей: "Пасля заканчэння літургіі ў Кафедральным саборы паследаваў хрэсны ход з Сабора... да... месца, дзе Яго Праасвяшчэнствам, у саслужэнні з духавенствам усіх праваслаўных цэркваў горада Мінска, было ўсенародна праведзена малебства святым Першанастаўнікам. Перад пачаткам малебства пратадыяканам О.П.Казлякоўскім, было прачытана гучнае пасланне Свяцейшага Сінода да чадаў святой Праваслаўнай Усерасійскай Царквы. Тысячы народа, што напаўнялі не толькі плошчу і прылеглыя да яе вуліцы, але і размясціліся на дахах суседніх будынкаў, удзельнічалі ў гэтым малебстве. Само неба, здаецца, слухала голас тых, хто маліўся: надвор'е стаяла ў гэты час самае цёплае і ціхае, сонца ззяла ва ўсёй сваёй веснавой прыгажосці". Хор з 250 чалавек пад кіраўніцтвам капітана артылерыі Н.А.Каванка і пры ўдзеле ваенных, духоўнікаў і вучняў выканаў і паўтарыў уключаныя ў праграму творы. Велічная і пяшчотная карціна, па словах рэдактара П.Г.Тарскага, не падлягае апісанню. Гімн Св. Першанастаўнікаў, прапеты гучна і ўрачыста хорам, перад іконаю Св.Першанастаўнікаў славян, што была пастаўлена на самым відным месцы, быў найлепшым выказнікам пачуццяў і жаданняў прысутных тут людзей з славянскаю душою і абудзіў у іх шмат надзей на лепшую будучыню ў славянскім свеце.

**Пётр КУЦАРАЎ.**

*З балгарскай мовы пераклала Росіца КАМЕНАВА.*

**Працяг.
Пачатак у № 22.**

## ВОДГУЛЛЕ

**Вельмі шаноўны спадар рэдактар!**

**У вашай газеце ("Голас Радзімы", 8-га лютага сёлета) прачытаў я ўспаміны сп. Аляксея Каўкі "Казаў Улашчык..." Маю ўвагу прыцягнуў быў надрукаваны там верш "Горад і вёска". Гэты верш я запамятаў ад свайго святой памяці бацькі Міхаіла Завістовіча.**

**Жывучы на чужыне, мы заўсёды згадвалі нашу Бацькаўшчыну -- Беларусьб яе народ і яго незайздросны лёс. У святыя дні ўспаміны і гаворкі пра Бацькаўшчыну заўсёды рабіліся нашымі сямейнымі ўрачыстасцямі. Мой нябожчык бацька ведаў шмат вершаў, апавяданняў і казак старога часу -- дарэвалюцыйнае пары ў Расійскай імперыі. Ён любіў пра ўсё гэта расказваць, а асабліва дэкламаваць вершы. Я вельмі шкадую, што амаль нічога не запісаў з таго, што чуў. Мой бацька памёр у Вашынгтоне 15 гадоў таму назад, так і не дачакаўшыся тых хоць часовых, мяркуючы па падзеях у Беларусі, палітычных пераменаў на нашай Бацькаўшчыне.**

**Надрукаваны ў вашай газеце верш "Горад і вёска" -- гэта скарочаны варыянт. Пасылаю Вам поўны тэкст. Можа хто ім зацікавіцца.**

**З пашанаю да вас
Расціслаў ЗАВІСТОВІЧ.**

## ГОРАД І ВЁСКА

**Бог хоць раз прывёў
Гаўрылу
У вялікім горадзе пабыць,
Але вёску сваю мілу
Ён ніяк ня мог забыць.**

**Як я доўга не пабачу
Сваю хату, поле, луг,
Ой, як горка, ледзь ня плачу,
Тут я целам, там мой дух.**

**Там табе усё знаёма,
Свой парадк, свой народ,
Не, нідзе ня лепш, як дома,
Тут дзень пройдзе,
як там год.**

**Прыйдзе свята --
ў цэркаў сходзіш,
потым ляжаш, адпачнеш,
У поле сходзіш,
там пабродзіш,
Так душой і аджывеш.**

**Ну і горад, ступа нейкая,
Што у нас куц[illegible]ўкуць,
Ашаломяць ча[illegible]ка,
Спаць у ночы не даюць**

**Колькі груку, колькі стуку,
Я дзіўлюся, як тут жыць,
Па каменнях гэт[illegible] -- бруку,
За грахі адны [illegible]ць.**

**Больш, як тыдзень
я тут шляўся,
Нават боты пратаптаў,
А чаго, каб хто спытаўся,
Тут часы прамарнаваў!**

**Раз у тэатр я зацясаўся,
На білет два грошы даў,
Толькі злосці там набраўся,
Я б тых баб павыганяў.**

**Начапляюць розных цацак,
А як скачуць, дзе іх стыд!**

**Ну, каб быў тут
наш Дзямід...**

**Выйдуць, нешта
памармычуць,
Што і чорт не разбярэ,
А ўсе рады, што іх клічуць,
Проста злосць мяне бярэ.**

**Як пакажуць ногу босу,
Дык не знаюць, як крычаць,
Я б пабіў на іх атосу,
Паказаў бы, як скакаць.**

**Толькі раз было там хвацка,
Выйшаў просты чалавек,
Такі смешны, як наш Яцка,
Паздароў яго, Бог, век!**

**Як ён глянуў, засмяяўся,
Каб яго паляруш узяў,
А скакаць як ён сабраўся,
Проста бокі падарваў.**

**У сад паглядзіш,
Усё паненкі, усё паны
ды панічы,
Ходзяць гэтак памаленьку,
Абібокі, таўкачы.**

**Вось каб вас касіць заправіў,
Альбо серп у рукі даў,
Ды ў жывот
картофлю ўправіў,
Вось тады б пазухаваў.**

**Балаголы, мэрам чэрці,
Іх мне ўсіх не разглядзець,
Можна з гора тут памерці
Ці ад нэндзы захварэць.**

**Ну, каб хутчэй мне ўжо
дадому,
Кажу праўду, не маню.
Заказаў бы і я ліхому,
Ездзіць у гэту таўкатню.**



**Парадам літаратурных герояў любімых англійскіх кніг пачаўся тыдзень культуры Вялікабрытаніі ў Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы Мінска. Тыдзень уключаў самыя розныя мерапрыемствы - віктарыны, гістарычныя чатанні, літаратурна-музычныя вечары, гульні -- падарожжы па творах вядомых англійскіх пісьменнікаў. На адкрыцці тыдня культуры Вялікабрытаніі прысутнічала намеснік Пасла Вялікабрытаніі ў Рэспубліцы Беларусь спадарыня Даўн Ліндзей.**

**Арганізавалі гэтае свята для дзятвы адміністрацыя Маскоўскага раёна сталіцы, Міжнародны адукацыйны цэнтр, Цэнтральная дзіцячая бібліятэка і дзіцячы тэатр-студыя "Чарадзеі".**

**НА ЗДЫМКУ: выстаўка-продаж дзіцячых кніг, якія стануць добрымі памочнікамі пры вывучэнні англійскай мовы.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

## *ШТО НА НАШЫМ ПАДВОРКУ?*






**Ідэя згоды і міру ў нашым агульным доме -- Беларусі -- была пануючай. На свяце ў Гродне быў, вядома, святочны настрой, хаця ніхто не абыходзіў і праблем, якіх сёння ў нас -- процьма. Выстаўляліся рахункі і да ўлады. А ўлада робіць усё, што можа і як можа. Па словах Аляксандра Білыка, адказнага сакратара Каардынацыйнага савета па справах нацыянальных меншасцей пры Кабінеце Міністраў Беларусі, вялікую ўвагу наш урад надае меншасцям не таму, што сітуацыя ў краіне вострая, а каб яна не абвастрылася, як гэта назіраецца не ў адной рэспубліцы былога СССР.**

**НА ЗДЫМКАХ: (на першай старонцы) удзельніца тэатра цыганскай песні і танца "Гіля Рамэн"; прадстаўнікі беларускага аб'яднання татар-мусульман "Аль Кітаб" у час адкрыцця фестывалю; выступаюць беларускія літоўцы; удзельніцы татарскага ансамбля "Тарначык"; "нацыянальны падворак" азербайджанскага аб'яднання "Габустан".**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**





# КРОК ДА АБ'ЯДНАННЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

Той жа А.Карлюкевіч аргументавана, на багатым фактычным матэрыяле давёў, што "погляд на сучасную сітуацыю ў зносінах Беларусі з бліжнім, так бы мовіць, мусульманскім светам падводзіць нас да адной важнай высновы. Якімі нас убачаць там, у многім залежыць ад таго, як мы самі захочам у ім убачыцца, -- ад нашых свядомых і мэтанакіраваных намаганняў у гэтым кірунку". Ды і І.Канапацкі перакананы, што лепш сусветная супольнасць зразумее беларусаў, калі не будуць абыдзены ўвагай і іншыя народы, якія здаўна жывуць з імі ў згодзе.

І згаданая канферэнцыя, і другая "Беларуска-амерыканскія гістарычна-культурныя ўзаемадачыненні" — канечне ж, сабралі не толькі мясцовых навукоўцаў, а і аўтарытэтных даследчыкаў з блізкага і далёкага замежжа. У прыватнасці, аб праблемах развіцця культуры беларускага замежжа разважалі Г.Пікарда (Лондан), М.Сяднёў (Глен-Коў, ЗША), З. і В.Кіпелі (Нью-Йорк), А.Каўка (Масква), Н.Брэдэрлоў (Патсдам), А.Баршчэўскі (Варшава), В.Грыцкевіч (Санкт-Пецярбург)...

Матэрыялы другой са згаданых канферэнцый займаюць адпаведна і другую частку кнігі (а наколькі шмат іх, сам за сябе гаворыць аб'ём выпуску — больш за 23 улікова-выдавецкія аркушы). Зноў жа, як і ў першым выпадку, закраналіся самыя розныя аспекты праблемы. Ды пра гэта сведчыць і падзагаловак канферэнцыі: "Традыцыі, сучасны стан, перспектывы". А паколькі пасяджэнні ішлі ў двух секцыях, дык і выступленні пададзены адпаведным чынам: "Грамадазнаўчая секцыя" і "Філалагічна-мастацкая секцыя".

Канечне, дасведчаны чытач пра "беларускую" Амерыку ведае не так і мала. І перш-наперш дзякуючы кнігам В.Кіпеля "Беларусы ў ЗША" і Л.Пранчака "Беларуская Амерыка". Але ў дадзеным выпадку кожны з даследчыкаў засяроджваецца на пэўнай праблеме, а таму яму ўдаецца спасцігнуць яе глыбока, раскрыць самыя розныя аспекты. Для прыкладу, гэтымі якасцямі вызначаюцца матэрыялы "Беларуская эміграцыя і славяназнаўства Паўночнай Амерыкі (50--90-я гады нашага стагоддзя)" Г.Сяргеевай, "Хто ёсць хто ў беларускай Амерыцы (Да стварэння біяграфічнага слоўніка дзеячаў навукі і культуры замежжа)" В.Гапоненкі, "Злучаныя Штаты Амерыкі ў творах падарожнікаў з Беларусі" В.Грыцкевіча.

Асобныя матэрыялы, як на першы погляд, падаюцца нават крыху нечаканымі. Як, напрыклад, "Вобразы індзейцаў у беларускай літаратуры і мастацтве" А.Сімакова. Але пазнаёмішся з ім і адчуеш, наколькі шмат і цікавых фактаў сабраў аўтар і як яны арганічна ўваходзяць у канву тэмы, акрэсленай назвай канферэнцыі. Больш таго, А.Сімакоў глядзіць і ў перспектыву: "Важным штуршком былі б і гастролі і прэзентацыі індзейскіх апавядальнікаў, мастакоў і музыкантаў у Беларусі — пытанне, якое ўжо ставіцца ў практычную плоскасць дзякуючы ініцыятыве амерыканскага антраполага і антрэпрэнёра Гордана Браніцкага, продкі якога паходзілі з Мінска".

Уяўленне аб пятым выпуску "Беларусікі" будзе няпоўным, калі не згадаць матэрыялаў "круглага стала" "Перспектывы беларуска-амерыканскага ўзаемадзеяння", а таксама змешчанага пад рубрыкай "З даследаванняў супрацоўнікаў Скарынаўскага цэнтра" артыкула Э.Дубянецкага "Беларускі нацыянальны характар: сутнасць і вытокі. Да пастаноўкі праблемы".

Несумненна, што ўсе, хто цікавіцца беларускай культурай у яе дачыненнях з культурай дыяспары, атрымалі для сябе каштоўнае выданне. Шкада толькі, што тыраж кнігі малы, усяго... 700 экземпляраў. Але, як кажуць, і за гэта дзякуй.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

220005, Минск, праспект Ф.Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 563. Падпісана да друку 27.5.1996 г.